# Алесь Гарун

# СЭРЦАМ ПАЧУТЫ ЗВОН

ПАЭЗІЯ
ПРОЗА
ДРАМАТУРГІЯ
ПУБЛІЦЫСТЫКА



МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» 1991

ББК 84Бел7
Г21

*Серыя заснавана ў 1989 годзе*

*Укладанне, прадмова і каментарыі*
*Уладзіміра Казберука*

*Мастак Уладзімір Басалыга*

Творчество Алеся Гаруна (Александра Владимировича Прушинского, 1887—1920) — одна из самых ярких и наиболее трагических страниц в истории белорусской литературы.

При жизни он издал всего одну книгу — «Материнский дар», недавнее факсимильное издание которой получило признание у широкого читателя.

В этой книге собрано все найденное на сегодняшний день творческое наследие Алеся Гаруна — талантливого и самобытного поэта, прозаика, драматурга, публициста.

Г $\frac{4702120206-008}{М 302(03)-91}$ 117—90

ISBN 5-340-00523-2

## ЦЕРНЕВЫЯ І ЛАЎРОВЫЯ ВЯНКІ АЛЕСЯ ГАРУНА

Творчасць Алеся Гаруна — незвычайная з'ява ў гісторыі беларускай літаратуры. Мала каму з нашых пісьменнікаў выпаў на долю такі трагічны лёс. Астрог, пасяленне ў Сібіры, сухоты — усё гэта давялося зведаць яму ў маладым узросце, калі наперадзе магло быць безліч розных дарог. Алесь Гарун выбраў адну — найбольш небяспечную, але, як яму ўяўлялася, найбольш важную — дарогу рэвалюцыйнай барацьбы з самаўладствам, з сацыяльнай несправядлівасцю.

Усяго 20 гадоў было яму, калі ён астаўся адзін на адзін з турэмнымі сценамі, што яго акружалі, і пільнай астрожнай вартай. Сам-насам са сваімі думкамі, якія ў зняволенні сталі пераплаўляцца ў «радкі звінючых слоў». З няволі яны ўжо ляцелі да родных, блізкіх, да народа, якому паэт пасылаў словы праўды, словы веры, надзеі, любові. Пасылаў ён і праклёны — ворагам працоўнага народа, прыгнятальнікам, крыўдзіцелям.

Біяграфія Алеся Гаруна вельмі мала даследавана. Да гэтага часу мы толькі карысталіся звесткамі з «Гісторыі беларускае літаратуры» Максіма Гарэцкага. Сёння з'явілася яшчэ адна надзейная крыніца — судовая справа пісьменніка-рэвалюцыянера. Яна дае магчымасць удакладніць некаторыя ранейшыя звесткі, значна іх пашырыць, а таксама выправіць дапушчаныя памылкі.

Сапраўднае імя Алеся Гаруна — Прушынскі Аляксандр Уладзіміравіч. У судовай справе захавалася выпіска з яго метрыкі, дзе сказана: «Тысяча восемьсот восемьдесят седмого года февраля двадцать восьмого дня в Минско-Кальварийском Римско-Католическом костеле окрещен младенец по имени Александр...

Крестьян Владимира Каетанова и Софии Ивановой урожденной Живица Прушинских законных родителей сын, родившийся сего года и м[еся]ца 27 дня в Новом Дворе Минско-Кальварийского прихода».

Да гэтага часу мы ведалі і пісалі, што Алесь Гарун нарадзіўся 27 лютага па старым стылі ў Мінску на вуліцы Багадзельнай (сён-

няшняя Камсамольская). А ці сапраўды гэта быў стары стыль, калі вядома, што каталіцкі касцёл карыстаецца новым стылем з 1582 года, з часу ўвядзення грыгар'янскага календара? А што гэта быў за Новы Двор у Мінска-Кальварыйскім прыходзе — трэба яшчэ высветліць. Магчыма, гэта быў фальварак Новы Двор, што знаходзіўся па Ракаўскай шашы і налічваў 6 двароў?

З гэтай жа справы мы даведваемся, што бацька Алеся Гаруна Уладзімір Каятанавіч паходзіў з вёскі Падстарынь Сталовіцкай воласці Навагрудскага павета (сёння Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці) і ўвесь час быў прыпісаны да яе, хоць жыў у Мінску.

У дзяцінстве і юнацтве Алесь Гарун шмат часу праводзіў на вёсцы ў цёткі. Там ён рана пачаў прывучвацца да фізічнай працы і, як пісаў Максім Гарэцкі, «рабіў усё, што рабілі брацельнікі, пасвіў коней, ганяў авечак, вазіў гной і г. д.». Было гэта, мабыць, у той жа вёсцы Падстарынь, жыхаром якой ён называецца ў судовай справе (у ёй чамусьці зусім не прымаецца пад увагу, што малады Прушынскі нарадзіўся ў Мінску, тут вучыўся, працаваў і жыў).

З біяграфіяй будучага пісьменніка звязана яшчэ адна геаграфічная назва. Пад паэмай «Мае каляды», што датуецца студзенем 1905 г., мы знаходзім назву вёскі *Капанікі.* Задача даследчыкаў сказаць, што гэта за населены пункт і ці не жыў там хто-небудзь з Прушынскіх або Жывіцаў.

Можна, аднак, меркаваць, што Алесь Гарун выхоўваўся ў заходнім (можа, нават у паўночна-заходнім) беларускім моўным асяроддзі, аб чым сведчаць некаторыя лексічныя і марфалагічныя асаблівасці мовы яго твораў («ні», «ніхай», «тваеі», «тваёга», «па свеці», «смокчэ» «небо», «прыпарыло, нахмарыло і ўдарыло»).

З дзяцінства Алесь Гарун палюбіў кніжку і ў пяць гадоў ужо ўмеў чытаць па-руску і па-польску. Скончыў 3-е Мінскае гарадское прыходскае вучылішча, а праз нейкі час — дрэваапрацоўчае аддзяленне трохгадовага рамесніцкага вучылішча, пасля чаго, з 1902 года, працаваў сталяром. Так вось у пятнаццацігадовым узросце ён стаў рабочым, пачаў сам зарабляць сабе на хлеб. А свае веды ён увесь час настойліва павышаў шляхам самаадукацыі.

У 1904 г. Алесь Гарун звязаў свой лёс з партыяй эсэраў-максімалістаў. Ён вёў актыўную агітацыю сярод мінскай вучнёўскай і рабочай моладзі. 4 сакавіка 1907 г. ноччу яго арыштавалі ў падпольнай друкарні на вуліцы Шырокай у Мінску, недалёка ад сучаснага Вялікага тэатра оперы і балета. Там друкавалася лістоўка «Ко всем трудящимся», накіраваная супраць тагачаснага грамадска-палітычнага ладу. У ёй бескампрамісна выкрываліся беззаконне і несправядлівасць, бяспраўе і прыгнёт: «Правящие и господствующие классы всегда смотрели на труд человеческий как на источник умножения богатств, и потому они, подобно стае хищников, накидыва-

лись на крестьянство и рабочих, и, пользуясь тем, что, кроме рук, способных работать, и желудков, требующих пищи, у них ничего нет, они высасывали из них все соки. Все накопленные богатства страны в разнообразных формах служат тому доказательством; в них заключается труд тех, кто живет в грязи и нищете, труд тех, чьи кости размотаны по всей земле и, наконец, чьим потом и кровью пропитана наша земля!»

Праклямацыя дае выразнае ўяўленне аб поглядах самога Алеся Гаруна і аб той духоўнай атмасферы, у якой ён жыў у гарачыя гады рэвалюцыі. Яна заклікала да дзеяння, да барацьбы супраць прыгнёту і здзекаў: «Настала пора положить конец вековой неправде, зависимости целых масс от горсти сильных и богатых!»

Пройдзе няшмат часу — і Алесь Гарун знойдзе для думак і заклікаў гэтай лістоўкі непаўторную мастацкую форму сваіх палымяных па духу вершаў. Вернасць гэтым поглядам ён захавае праз усё жыццё.

У час арышту Алесь Гарун назваў сябе пскоўскім мешчанінам Пятром Аляксандравічам Івановым. І толькі 3 красавіка 1907 г. у заяве, падпісанай гэтым прозвішчам, ён выказаў жаданне даць пра сябе дакладныя звесткі, а ў пратаколе № 3 ад 10 мая ён паведаміў: «Зовут меня Александр Владимиров Прушинский, 20 лет, римско-католическ. вероисповед., белорус, русский, российско-подданный, крестьянин Новогрудского уезда, Минской губернии, приписан Стволовичской волости Новогр. уезда, по ремеслу столяр, жил на личные заработки и частью на средства отца. Отец — Владимир Прушинский, мать — София, братья: Антон, сестра Юзефа, родители проживают в гор. Минске по Скобелевск. ул. ...»

Тут некаљкі здзіўляе суседства двух слоў у анкеце: «белорус» і «русский», тым больш што следам за імі ідзе ўдакладненне: «российско-подданный».

Але ў пратаколе даваліся адказы на канкрэтныя пытанні, якіх у анкеце было аж 19:

1) Зовут меня (фамилия, имя, отечество...)
2) От роду имею...; родился в ...
3) Вероисповедание...
4) Происхождение...
5) Народность...
6) Подданство...
7) Звание...

Слова «беларус» азначае адказ на пытанне анкеты аб паходжанні, а «рускі» — на пяты пункт яе: «народность». Між іншым «рускім» па «народнасці» запісаў сябе і Абрам Левітас, якога судзілі разам з Алесем Гаруном. На пытанні, пастаўленыя ў следчым

дакуменце, ён адказаў: «вероисповедание — иудейское, происхождение — еврей, народность — русский, подданство — российское».

Не маючы дастаткова надзейных звестак, даследчыкі да гэтага часу пісалі, быццам Алесь Гарун сядзеў не толькі ў мінскім астрозе, але і ў Вільні, у Лукішках (што карысталіся такой сумнай славай), потым вясной 1908 г. быў засуджаны на катаргу, якую пазней замянілі ссылкай.

Усё гэта недакладна. Алеся Гаруна адправілі з мінскага астрога ў Вільню ў дзень суда, гэта значыць 26 лютага 1908 г. (па старым стылі) у 9 гадзін 15 мінут раніцы. Суд пад старшынствам Карбекі (таго ж самага, што праз нейкі час судзіў Якуба Коласа) запісаў у сваім рашэнні: заключыць падсудных Прушынскага і Левітаса на два гады і восем месяцаў у астрог («крэпасць»).

З такім рашэннем не згадзілася пракуратура, якая накіравала касацыйную скаргу ў сталіцу імперыі так званаму «Правительствующему сенату». І аператыўна ўказам «Его Императорского Величества, самодержца всероссийского» ад 26 красавіка 1908 г. той прысуд быў адменены.

Выклікае бясспрэчную цікавасць ацэнка дзейнасці Алеся Гаруна вярхоўнай судовай інстанцыяй Расійскай імперыі:

«По указу ЕГО ИМПЕРАТОРСКОГО ВЕЛИЧЕСТВА, Правительствующий Сенат в судебном заседании слушал: кассационный протест Товарища Прокурора Виленской Судебной Палаты на приговор той же Палаты, по обвинению Абрама Левитаса и Александра Прушинского по 1 ч. ст. Угол[овного] Улож[ения]. Принимая во внимание: 1) что подсудимые Левитас и Прушинский преданы были Суду по ст. 102 Угол. Улож., то есть по обвинению в принадлежности к преступному сообществу, именовавшему себя «районною организациею социалистов революционеров-максималистов» и, заведомо для них, поставившею целью своей деятельности насильственное, путем террористических действий и вооруженного восстания, изменение установленного Основными Законами образа правления и замену его республиканским, причем, в качестве членов названного сообщества, они, в целях такового, устроили тайную типографию и напечатали большое количество воззваний, содержащих призыв к «кровавой борьбе за социализм» и к убийству должностных лиц, помещиков и капиталистов; 2) что, признав подсудимых виновными в указанном преступном деянии, Виленская Судебная Палата применила к ним 1 ч. 126 ст. Угол. Улож., в силу того, что насильственное посягательство на «Верховное Управление» государством не составляло ближайшей цели членов сообщества, а предполагалось ими лишь в будущем; 3) что приведенное суждение Палаты лишено правильного основания, так как принадлежность к сообществу, имеющему целью насильственное посягательство на изменение установ-

ленного Основными Законами образа правления, предусмотрена ст. 102, а не ст. 126 Угол. Улож., безотносительно к тому, составляет ли означенное посягательство ближайшую или только конечную цель сообщества. [...] Правительствующий Сенат ОПРЕДЕЛЯЕТ: за нарушением ст. 102 и неправильным применением 1 ч. 126 ст. Угол. Улож. отменить приговор Виленской Судебной Палаты, состоявшийся по делу о Левитасе и Прушинском, в части, касающейся наказания названных подсудимых, и возвратить означенное дело в ту же Палату для постановления в другом составе присутствия нового приговора о наказании Левитаса и Прушинского».

Новае судовае пасяджэнне адбылося 10 ліпеня 1908 г. На гэты раз у пастанове суда было запісана: «...Крестьянина дер. Подстаринья Стволовичской волости Новогрудского уезда Александра Владимирова Прушинского, 20 лет, сослать на поселение, с лишением прав и последствиями по 25, 28—30 ст. Угол. Улож.». (Тады ўжо Алесю Гаруну было не 20 гадоў, а 21.)

Як бачым, звесткі пра Лукішкі і катаргу ў справе не пацвярджаюцца. Алесь Гарун са сваім напарнікам быў адпраўлены ў ссылку, аб чым пракурор Віленскай судовай палаты дакладваў 17 снежня 1908 г.: «Вследствие отношения от 23 августа с. г. за № 10600 имею честь сообщить, что мещ(анин) Абрам-Исаак Левитас и Александр Прушинский, осужденные приговором Виленской Судебной Палаты от 10 июля с. г. за преступление пред. 102 ст. Угол. Улож. на поселение отправлены 11 ноября сего же года в распоряжение Иркутского губернского правления при статейных списках от 6 того же ноября, за №№ 42 и 43».

Аб сібірскім перыядзе жыцця пісьменніка Максім Гарэцкі паведамляе: «Ссылку адбываў Гарун у Кірэнскім павеце Іркуцкай губерні. Спачатку жыў у невялікім чалдонскім сяле Макараўскім, ля ракі Лены — 71 вярста ад Кірэнска і 971 вярста ад Іркуцка; потым у вёсцы Крывая Лука, 18 вёрст ад Макараўскага. Займаўся там сталярскімі і цяслярскімі работамі... Ад 1914 г. Гарун быў на Лене вадалівам, даплываў аж да Якуцка. На баржы № 18 рыхтаваў ён да друку свой зборнік «Матчын дар», пасланы ўвосень 1914 г. у Вільню. Ад 1915 г. паэт падаўся на прыіскі ў Байдабо, дзе і дачакаўся рэвалюцыі».

У дакуменце Макараўскага валаснога праўлення ад 1914 г. паведамляецца, што палітычны ссыльны Аляксандр Прушынскі, які жыве ў вёсцы Крывалукскай (а не Крывая Лука), вядзе сябе сціпла, ніякай гаспадаркі не мае, працуе сталяром.

Сібір на доўгія гады стала Алесю Гаруну і домам, і жыццёвым «універсітэтам». Яна не зламала яго волі ні паднявольным становішчам, бяспраўем, ні нечалавечымі ўмовамі жыцця, ні сухотамі.

Ратавала яго праца — і фізічная, да якой ён змалку цягнуўся, і творчая, пісьменніцкая. Веліч духу Алеся Гаруна праявілася перш за ўсё ў тым, што ён знайшоў сваё месца ў незвычайных, экстрэмальных умовах, месца, якое прынесла славу яму і карысць народу, роднай культуры.

Нам сёння цяжка ўявіць сабе, як гэта Алесю Гаруну, рабочаму без адукацыі, пазбаўленаму родных сцен, роднага асяроддзя, вымушанаму цярпець катаржны па сваёй сутнасці прыгон, на далёкай чужыне на працягу кароткага часу ўдалося дасягнуць такіх вяршынь мастацкай творчасці.

Хутка яго творы занялі ганаровае месца ў беларускай перыёдыцы (газеты «Наша ніва» і «Беларус») і калектыўных зборніках.

Першыя друкаваныя вершы з'явіліся, калі ён яшчэ сядзеў у астрозе. Як ён перадаваў іх на волю — мы не ведаем. У судовай справе захаваліся на рускай мове два яго лісты да бацькоў, падпісаныя імем Алесь. Турэмныя ўлады іх не прапусцілі, хоць гэтыя лісты былі зусім бяскрыўдныя, у іх змесце нельга было заўважыць нічога крамольнага. А тут траплялі на волю мастацкія творы, ды яшчэ на беларускай мове. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што аўтар, перадаючы іх на волю, не пытаўся дазволу ў турэмнага начальства.

Вершы, надрукаваныя ў «Нашай ніве», былі — «Маці-Беларусі» (1907 г., № 23), «Януку Купале» (1908 г., № 21), «Начныя думкі» (1908 г., № 23). Другі з гэтых твораў з'явіўся водгукам на купалаўскую «Жалейку», якая пабачыла свет незадоўга перад тым. Факт сам па сабе вельмі цікавы, бо ён сведчыць аб тым, што Алесь Гарун у мінскім астрозе атрымаў паэтычны зборнік, да якога не мог застацца абыякавым. Можна выказаць меркаванне, што паэзія Янкі Купалы памагала яму знаходзіць уласныя шляхі ў літаратуру, падтрымлівала маральна, прымушала яго сур'ёзна адносіцца да ўласнай літаратурнай творчасці.

Амаль следам за вершам «Януку Купале» з'яўляюцца «Начныя думкі». Верш кранаў меладычнасцю і мілагучнасцю радка, самабытным увасабленнем пачуцця злітнасці з роднай зямлёй, яе краявідамі, усім духоўным жыццём народа.

Мастацкая вобразнасць, паэтычнае светабачанне арганічна ўвабралі ў сябе асаблівасці фальклорнай паэтыкі, пераплавілі іх. Імення ад яе ўся вобразная сістэма — і хвойкі, і зоры, і купальская кветка, і «зелле на гора і мукі», і матыў пошукаў гасцінца, што вядзе да лепшай долі.

Паэт знайшоў сваю лірычную мелодыю для выяўлення найбольш схаваных, але і найбольш дарагіх пачуццяў чалавека, адарванага ад радзімы. Пранікнёнай малітвай, звернутай да роднай зямлі, гучыць словы лірычнага героя верша «Начныя думкі»:

Дай мне купальскую кветку у рукі,
Путы жалезныя мне развяжы,
Дай ты мне зелля на гора і мукі,
К шчасцю гасцінец мне дай, пакажы!

Такога паэтычнага ўзроўню вершы маглі з'явіцца толькі таму, што Алесь Гарун не першы год займаўся ўжо літаратурнай творчасцю. Аб яго ранніх паэтычных спробах мы сёння можам даведацца толькі з «Гісторыі беларускае літаратуры» Максіма Гарэцкага, дзе сказана: «Здольнасць да пісання вершаў была ў яго змалку, але спачатку Прушынскі пісаў іх па-маскоўску і пераважна ў гумарыстычным тоне. З уваходам яго ў партыю, творчасць прыняла сур'ёзны і рэвалюцыйны кірунак. На шкоду, усе ягоныя вершы таго часу пагінулі. Пісаць па-беларуску Гарун пачаў ад 1905 г., ■ беларускае друкаванае слова першы раз пабачыў у 1903 ці 1904 г., выпадкам знайшоўшы абадраную, запэцканую, без пачатку і канца, цікавую кніжку, друкаваную лацінкай. Як надта вялікі ахвотнік да чытання і ўважны цікун усякага друку, ён пачаў чытаць і гэтую кніжку, думаючы, што яна польская. Але з першых жа перачытаных словаў незвычайна здзіўлены хлапец пачуў, як неўспадзеўкі закалацілася ў яго сэрца, на вачах, немаведама чаго, накруціліся слёзы. Перад вачмі было тое, чаго ніколі не бачыў: сваё роднае, хатняе друкаванае слова! Гэта было, як паэта пазней даведаўся, старое выданне аповесці «Гапон» Марцінкевіча. У 1905—1906 гадах напісаў ён і пашырыў сярод моладзі і работнікаў колькі сацыяльна накіраваных вершаў, цяпер згубленых ці нікім яшчэ не знойдзеных («Чаму так, скажэце, жывецца на свеце?» і інш.). Тады на яго мелі ўплыў вершы Цёткі, ейныя ананімныя адозвы і лістоўкі, якія разам з «Нашаю нівою» і рознай агітацыйнай літаратурай пашыраў Аляксандр Уладзіміравіч Прушынскі».

З найбольш ранніх твораў Алеся Гаруна да нас дайшла паэма «Мае коляды», якая датуецца студзенем 1905 г. Праўда, пабачыла яна свет толькі ў 1920 г. у Вільні пад псеўданімам А. Сумны. Пад гэтым жа псеўданімам яшчэ да рэвалюцыі (перад першай сусветнай вайной) друкаваліся вершы ў газеце «Беларус».

На рубяжы 1904 і 1905 гадоў у Беларусі яшчэ панавала цішыня, якая не магла даць належнага ўяўлення аб той сацыяльнай буры, што ўжо была на парозе і да крайнасці абвастрыла ўсе супярэчнасці тагачаснага грамадства. І зусім юны Алесь Гарун, удзельнік рэвалюцыйнага руху, адкрыў для сябе адну з важнейшых праблем свайго часу, можа, нават і неспадзявана, як і яго герой паэмы, які, трапіўшы на каляднае свята да багатых паноў, раптам, у адзін момант, зразумеў, што панскае асяроддзе — чужое для яго. Яму стала сорамна, што на нейкі кароткі час ён хацеў бы схаваць сваё паходжанне — вясковае, мужыцкае, беларускае... Так у паэме было па-

стаўлена пытанне аб тым, хто мы такія, чаго нам трэба саромецца і чаго трымацца.

Гэта быў першы вялікі крок на шляху да мастацкай сталасці. Паэма нам шмат чаго тлумачыць у творчым станаўленні песняра. Мы маем магчымасць пераканацца, што невыпадкова Алесю Гаруну трапіў у астрог купалаўскі зборнік «Жалейка», бо тады ўжо ён пільна сачыў за развіццём беларускай літаратуры. І мастацкі ўзровень першых апублікаваных вершаў не так ужо здзіўляе.

Больш стала і настойліва літаратурнай творчасцю Алесь Гарун заняўся ўжо ў Сібіры, адкуль ён пасылаў свае творы ў «Нашу ніву», потым у «Беларус», дзе друкаваў іх пад псеўданімам А. Сумны.

Паступова назбіралася ў яго цэлая кніжка «маркотных песняўдум». І аўтар даў ёй назву «Матчын дар» — так называўся і адзін з вершаў зборніка.

Сам гэты твор — паэтычная скарга ці, можа, нават і плач лірычнага героя з прычыны таго, што змарнаваў жыццё-«скрыпіцу», падараванае матуляй «на шчасце», «на добру долю», «на век даўгуткі», «на вольну волю».

Граю, праўда! граю... А на сэрцы важка,
А у сэрцы больна, аж трываці цяжка.
Тыя не прыходзяць песні-весялушкі,
Як пяе зямліца, як шчабечуць птушкі.
Жаль з нудой заплачуць, глуха як зайграю...

«Долі я не бачу, радасці не знаю» — вось лейтматыў многіх песняў-дум і песняў-жальбы лірычнага героя вершаў зборніка. Але далёка не ўсіх і нават не асноўнай часткі.

Найбольш прыкметнае месца ў кнізе займаюць грамадзянскія — дэмакратычныя і рэвалюцыйныя матывы. Тут выразна адчуваецца школа той барацьбы, якую паэт прайшоў перад арыштам.

Узяць хоць бы верш «Юдам». Па форме — гэта традыцыйны зварот да паноў-прыгнятальнікаў. Форма такая ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі была добра вядомая. Можна нагадаць хоць бы вершы Янкі Купалы «Ворагам беларушчыны» («Чаго вам хочацца, панове...»), «Адповедзь» («Вы, паны, мяне з песняй к сабе прызываеце...»), Якуба Коласа «Ворагам» («Багачы і панства, нашы дабрадзеі...»).

Блізкім па духу з'яўляецца і верш Алеся Гаруна. Блізкім, але толькі больш пафасным і палымяным, вострым і бескампрамісным. Гэта таксама свайго роду «адповедзь» панам на іх абяцанні: «Нядоўга вам дамо багацтва, волю, згоду».

Такія вершы нараджаюцца толькі ў атмасферы неўтаймаванага грамадскага хвалявання, толькі ў эпоху рэвалюцыйных выбухаў, калі эмоцыі не адзінак, а мас даведзены да кіпення:

«Мы волю вам»... Пракляцце вам і з ёю!
Чаму ад волі вашай мы стагнаць павінны?
Яна ланцуг над нашаю зямлёю;
Астрог на наш народ, спакойны і бязвінны.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ідзіце ж проч! І з воляю ідзіце!
Да волі знанае хутчэй мы прыйдзем самі.

Астрог і Сібір не скалечылі духоўна, не зламалі маральна Алеся Гаруна, які знаходзіць у сабе сілы слаць панам-уладарам-багацеям — па сутнасці тым, хто яго судзіў,— словы бязмежнай пагарды і нянавісці, прадыктаваныя пачуццём абуджанай чалавечай годнасці і гордасці:

З усіх бакоў на паслугі уціску
Чаргою воўчаю з'яўляецесь усюды,
Дзе клічуць вас для крыўды, для націску
На праўду вечную... Вы... імя вам Іуды!
Ідзіце ж проч! Бясплодна ваша трата
На ласкі ліссія. Пакіньце слова «брат»!
Вы цяжкі сон. Ка́ты... Вы горай ката!
Кругом праклятыя, вам бацька, брат — дукат!

Паэт неспакойнай душой улаўліваў і балюча ўспрымаў не толькі праявы грамадскай, сацыяльнай несправядлівасці, але і фальш у любой яго форме, у любым абліччы. Абвостранае пачуццё, як аголеная рана, успрымала, як удары токам, усю тую крыўду і несправядлівасць, якой так багата было на зямлі і якую так бяздушна ўсюды абыходзілі, быццам не заўважалі і нават хвалілі славеснымі гімнамі і одамі ў гонар найвышэйшай — боскай — справядлівасці, завешчанай народам зямлі самім свяшчэнным пісаннем, усёй хрысціянскай рэлігіяй.

Асабліва ўражвае верш «Малітва». Лірычны герой стаў сведкам новага прышэсця сына божага на нашу зямлю, да тых людзей, якіх калісьці ратаваў сваёй ахвярнай крывёй і пакутамі на крыжы. Як увасабленне маральнай чысціні і найвышэйшага высакародства, сын божы ў сваім звароце да бацькі нябеснага з гневам, жахам і са слязьмі на твары абмалявау тое, што знайшоў на зямлі:

Гарыць, баліць душа мая,—
О, дай жа моцы, Мілы!
Паглянь: паўсюдах з краю ў край
Рабунак, глуз пануюць,
І льецца смех тых чорных зграй,
І ўсё з зямлёй раўнуюць.

Як быццам ідучы следам за Багушэвічам, Гарун узяўся шукаць праўду на небе, не знаходзячы яе на зямлі. І што ж ён пабачыў там? Ён пераканаўся, што неба ад зямлі адгароджана пустазвонствам, праз якое не праб'ецца ніякая скарга:

Паслухай ноччу, ўдзень, Святы,
Скажы маўчаці звонам,—
І колькі жальб пачуеш Ты!
Зямля азвецца стогнам...

Алесь Гарун звяртаецца за адказам на найбольш балючыя пытанні быцця туды, куды звяртаюцца абяздоленыя — да евангельскага вучэння аб божай — найвышэйшай справядлівасці. І, пераканаўшыся — не раз і не два (успомнім яшчэ хоць бы верш «На смерць»),— што ні свяшчэннае пісанне, ні бог не могуць сказаць тое слова, якое вызваліла б абяздоленых ад прыгнёту, паэт сам вызначае шлях да праўды і справядлівасці. Ён усвядоміў сам і хоча, каб зразумелі ўсе, што да вызвалення сацыяльнага можа весці толькі вызваленне духоўнае. І таму ён, звяртаючыся да паэта, дае яму наказ:

Прашу цябе, мой брат, спявай аб нашым горы,
Аб тым, што ёсць цяпер і што даўней было,
І што на ўсякі твар кладзець, як плуг, разоры,
І што ў мільёнах душ разоры правяло.
Прашу цябе, спявай аб горы песнь адну ты
І наш гаротны лёс рабі яшчэ цяжэй,
Тагды, убачыш сам, парвуцца духа путы
І будзе ясны дзень да нас тагды бліжэй.

*(«Паэту»)*

Для вызвалення духоўнага якраз і патрэбна жывое, дзейснае слова.

Увесь зборнік «Матчын дар» уяўляе сабой нябачны мост Сібір — Беларусь. «Сваіх тут жменьку я спісаў // Маркотных песняў-дум; // Маёй душы іх сам спяваў // Па краю родным сум»,— прызнаваўся паэт у вершы «Людзям», якім адкрывалася кніга. Паэтычныя творы ўсіх трох раздзелаў — «Роднаму краю», «На чужыне», «Прыявы роднага» — так ці інакш звязаны з радзімай, яе доляй, краявідамі, з лёсам народа.

Лірычны герой, закінуты нядоляй на такую далёкую, няласкавую, бязлітасную чужыну, і ў сне і наяве бачыць родныя малюнкі. Ён ляцеў бы туды ці птушкай паднябеснай, ці вольным ветрам, што не ведае ніякіх межаў, каб там набліжаць лепшую долю сваёй працай «шчыраю, мілаю».

Перад паэтам зноў і зноў узнікаюць, адраджаюцца такія розныя малюнкі — і гаротныя, пакутлівыя, і нястрымна вясёлыя. У іх трагічнае не раз можа суседнічаць з камічным («Спрэчка»). А яшчэ ён колькі разоў пераносіцца ў свет народных паданняў, легенд, казак з іх мудрым, а то і проста павучальным, дыдактычным, маралізатарскім сэнсам («Шчасце Мацея», «Канец Паўлючонка», «Варожба»). І што ні верш, што ні паэма — то новыя ўзоры рытмікі, рыфмоўкі, нейкія свае формы мастацкай вобразнасці.

І з боку мовы паэзія Алеся Гаруна не раз здзіўляе непаўторны-

мі асаблівасцямі. Тут часты госць — дыялектызмы, паланізмы, русізмы. Але нельга забываць, што і паланізмы (якіх мы таксама нямала знаходзім і ў Янкі Купалы) і русізмы ўяўляюць сабой характэрную асаблівасць жывой народнай мовы, якая практычна ні ў адной мясцовасці не абыходзіцца без іх.

Наш час дае магчымасць па-сапраўднаму ацаніць усю спадчыну Алеся Гаруна. Пісьменнік у многім абганяў сваю эпоху, узнімаўся над сучаснікамі ў асэнсаванні падзей. Возьмем для прыкладу верш «Праводзіны», якім паэт адгукнуўся яшчэ ў жніўні 1914 г. на вестку аб пачатку вайны. Сказаў ён там вельмі дакладна:

Сорам і ганьба для свету вайна,
Як ні мяркуй, ні судзі;
З боскіх законаў смяецца яна...

Наогул у асэнсаванні трагічнага і бесчалавечнага характару першай сусветнай вайны адразу ж пасля яе пачатку беларуская літаратура з усёй відавочнасцю паказала сваю ідэйна-мастацкую сталасць. І гэта зразумела. У нашых пісьменнікаў не было ніякіх падстаў для шавіністычных настрояў. У час любой вайны пакутуюць не тыя, хто яе пачынае, а простыя людзі. А беларускія пісьменнікі выяўлялі настроі самога народа, таму яны і паказалі злачынны, антычалавечны характар вайны.

Алесь Гарун не быў тут выключэннем. Побач з яго вершам «Праводзіны» можна паставіць верш «Ой, Божанька», апублікаваны ў верасні 1914 г. у газеце «Беларус» пад псеўданімам «Іскра» (лічаць, што гэта быў адзін з псеўданімаў Змітрака Бядулі):

Ой, Божанька, дакуль так сэрца будзе дзіка?
Агонь, і кроў, і слёзы хваляю вялікай
Зямлю ўсю залілі... І ўсё кіпіць... шуміць...
Ой, так не можна жыць!..

Аўтары гэтых вершаў значна апярэджвалі асэнсаванне тэмы вайны іншымі пісьменнікамі той пары. Сам верш «Ой, Божанька» і асабліва яго апошнія радкі не страцілі сваёй актуальнасці і ў наш час:

Ой, Божанька, хай прыйдзе сон святых пракокаў
Аб шчасці на зямлі, што вырасцець высока,
Аб тым, што гостры штых у плуг перакуём,
А меч будзе сярпом...

Не менш уражвае верш Алеся Гаруна «Чалавечая кроў». У кожным радку яго адчуваецца ўсё той жа матыў выкрыцця і асуджэння ганебнай сутнасці бясконцых войнаў, без якіх мы ніяк не маглі б уявіць сабе гісторыю чалавецтва.

Пісаўся верш у той час, калі некаторыя нават вельмі славутыя паэты (праўда, не беларускія) дакляравалі — прытым зусім шчы-

ра — узвышаныя патрыятычныя пачуцці, пелі дыфірамбы воінам, на долю якіх быццам выпала свяшчэнная місія караць заклятых ворагаў і гэтым самым вяршыць справядлівы суд гісторыі:

И что же! священный союз
Ты видишь, надменный германец?
Не с нами ль свободный француз,
Не с нами ль свободный британец?

Не надо заносчивых слов,
Не надо хвальбы величавой,
Мы явим пред ликом веков,
В чем наше народное право.

Так вітаў вайну не хто-небудзь, а В. Я. Брусаў 30 ліпеня 1914 г. у вершы «Старый вопрос». І ён быў не адзін такі. 23 верасня 1914 г. газета «Русское слово» апублікавала зварот «От писателей, художников и артистов», падпісаны найбольш вядомымі дзеячамі рускай літаратуры і культуры (А. і В. Васняцовымі, К. Каровіным, Ф. Шаляпіным, М. Горкім, А. Серафімовічам, Скітальцам і іншымі). Як вядома, У. І. Ленін ахрысціў гэты бясслаўны дакумент «дешевеньким» «шовинистически-поповским протестом против немецкого варварства», падкрэсліўшы «всю фальшь и пошлость этого лицемерного протеста». (*Ленин В. И.* Полн. собр. соч. Т. 26. С. 96—97.)

У час найцяжэйшых ваенных выпрабаванняў у Алеся Гаруна, хоць ён і знаходзіўся так далёка ад роднай зямлі, небывала абвастрылася пачуццё трывогі за лёс шматпакутнай Беларусі, за лёс свайго народа. Але яго ніколі не пакідала вера ў тое, што ў пакутах і муках непазбежна народзіцца новая будучыня.

Алеся Гаруна з няволі вызваліла лютаўская рэвалюцыя. У верасні 1917 г., пасля дзесяцігадовага знаходжання ў астрозе і ссылцы, ён вярнуўся ў Мінск. Пачаўся новы, заключны этап жыццёвага і творчага шляху пісьменніка. З першых жа дзён Алесь Гарун уключыўся ў актыўную грамадскую, літаратурную і публіцыстычную дзейнасць.

Ён марыў пра Беларусь незалежную — такую, у якой мужык стаў бы сапраўдным гаспадаром на сваёй зямлі. Але як гэтага можна было дасягнуць рэальна — не ведаў.

Затое само жыццё прымушала яго пільна прыглядацца да падзей, асэнсоўваць іх з улікам абставін, якія так часта і так кардынальна мяняліся. На рубяжы 1917 і 1918 гадоў у артыкуле «Одгукі» («Вольная Беларусь», № 1, 7 студзеня) ён рэзка выступіў супраць экспансіі польскіх легіёнаў на ўсход, супраць спроб далучыць Беларусь да Польшчы. У 1918 г. ён аддае пахвалу рускаму пралетарыяту і рэвалюцыі ў Расіі.

Але ідэйныя пазіцыі Алеся Гаруна ў той багаты грамадскімі катаклізмамі час аказаліся не такімі адназначнымі і просталінейнымі.

У 1918 г. ён усё яшчэ марыў пра Беларусь незалежную, суверэнную, не падпарадкаваную нікому. У верасні 1919 г. вітаў у Мінску Пілсудскага, пасля чаго неўзабаве стаў членам Беларускай вайсковай камісіі, якая павінна была арганізаваць Беларускую армію. Але работа камісіі аказалася паралізаванай, і створаная ёю рота («кампанія») у чэрвені 1920 г. накіравалася не на фронт, а на курсы беларусазнаўства.

Пасля верасня 1919 г. Алесь Гарун не апублікаваў ніводнага антысавецкага мастацкага ці публіцыстычнага твора, затое ж у шматмоўным зборніку «Дзень Чырвонае Арміі» ў яе гонар змясціў верш «Брацця, к агульнаму шчасцю...».

На працягу 1917—1920 гадоў многім беларускім дзеячам (пісьменнікам у тым ліку) даводзілася сур'ёзна ўдакладняць свае погляды. Само жыццё прымушала. Алесь Гарун аказаўся ў ліку тых беларускіх пісьменнікаў, хто найбольш набліжаўся да ўспрыняцця ідэй Кастрычніцкай рэвалюцыі. Мабыць, зусім невыпадкова ў чэрвені 1920 г., у час пераможнага наступлення Чырвонай Арміі, ён апублікаваў у часопісе «Рунь» (рэдактарам якога з'яўляўся Янка Купала) верш «Кліч» з заклікам да ўсенароднага паўстання.

У 1920 г. у Мінску пабачыла свет брашура «Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя, яе мэты і заданні. Папулярны выклад праграмы», падпісаная крыптанімам «А. Ж.». Да нядаўняга часу лічылася, быццам А. Ж.— гэта Алесь Гарун. Так сказана ва ўступным артыкуле да кнігі «Матчын дар», выдадзенай у Мюнхене ў 1962 годзе.

Сёння ўжо нашы даследчыкі, Аляксей Каўка і Арсень Ліс, абгрунтавана сцвярджаюць, што Праграма напісана Аркадзем Смолічам. Але яна адпавядала поглядам Алеся Гаруна як члена Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. І зусім не выключана, што ён прымаў непасрэдны ўдзел у яе падрыхтоўцы і рэдагаванні.

Па сваёй сутнасці брашура ўяўляе першы беларускі падручнік навуковага сацыялізму. У даходлівай форме, упершыню на беларускай мове, паслядоўна тлумачыцца, што такое класы ў грамадстве, класавае змаганне, дадатковая вартасць, чаму капіталістычны парадак несправядлівы, як ён падрыхтоўвае глебу для сацыялістычнага грамадскага ладу, якія мэты ставіць перад сабой сацыял-дэмакратыя і г. д.

Выключна цікавымі — асабліва ў святле сённяшніх працэсаў і падзей — уяўляюцца разважанні аб шляхах сацыялістычных пераўтварэнняў у сельскай гаспадарцы. Аўтар прарочым вокам зірнуў у будучыню, паказаў і рэальныя шляхі сацыялістычнага будаўніцтва і прадбачыў катастрафічныя вынікі непрадуманых, неабгрунтаваных, непадрыхтаваных і паспешлівых спроб пераводу сельскай гаспадаркі на сацыялістычныя рэйкі.

У тым далёкім 1920 годзе, калі ўсё так мянялася, а вайна магла перакрэсліць любыя планы і ўяўленні, Праграма папярэджвала: «Дробную сялянскую ўласнасць на зямлю зніштажаць зараз жа... мы лічым непатрэбным і нават шкодным... Яшчэ справа не наспела, яшчэ няма адпаведна падгатаваных працаўнікоў і арганізатараў. Калі б цяпер быў сацыялізаваны ўвесь вытвар, дык ён трапіў бы ў рукі ўрадоўцаў (чыноўнікаў.— *У. К.*)-прафесіяналаў, зложаных па большай часці з людзей, служыўшых старой бюракратыі. Не толькі сацыялістычны парадак быў бы абернуты ў нейкую пародыю, у «бюракратычны сацыялізм», але і сам вытвар моцна абнізіўся б, што прывяло б да эканамічнай катастрофы».

Калі мы сёння прачытаем гэтыя палажэнні з улікам усяго гістарычнага вопыту, а таксама ленінскіх выказванняў аб значэнні кааперацыі для перамогі сацыялізму, дык вымушаны будзем прызнаць увесь дакумент выдатным дасягненнем марксісцкай думкі ў Беларусі той эпохі.

Для сённяшняга чытача найбольш актуальнымі і надзённымі, бадай, уяўляюцца разважанні аб нацыянальных праблемах. Яны не страцілі свайго значэння і для нашых дзён: «Тварыць па-за межамі нацыянальнасці немажліва. І народ, звольнены ад капіталістычнага вызыску, таксама, як і ў цяперашнія часы, будзе выяўляць сваю найвышэйшую творчасць у нацыянальных формах. А значыць, і ўсялюдскі прагрэс, які ёсць творчасцю перад усім, будзе йсці нацыянальнымі шляхамі і прывядзець ніякім чынам не да асіміляцыі народаў, а толькі да вышэйшай формы іх згоднага жыцця, працоўнага інтэрнацыяналю». «У царства сацыялізму ўвойдзе беларускі народ як роўны з іншымі народамі толькі пры варунку развіцця ўсіх бакоў яго духоўнага жыцця, што магчыма толькі ў рамках нацыянальнай культуры».

На практыцы ў нас на працягу многіх дзесяцігоддзяў любое выступленне ў абарону нацыянальных правоў народа, яго культуры і мовы абвяшчалася нацыяналізмам, што як быццам пярэчыў свяшчэннаму прынцыпу пралетарскага інтэрнацыяналізму. І нацыяналістамі называліся тыя, хто самаахвярна і самаадданa будзіў нацыянальную свядомасць народа, працаваў на яго карысць. Сярод іх таксама і Алесь Гарун.

«Папулярны выклад праграмы» як беларускі дакумент навуковага сацыялізму замоўчваўся нашай афіцыйнай гістарычнай навукай, быццам яго ніколі не існавала. А тут былі сфармуляваны тыя прынцыпы і палажэнні, якія вытрымалі праверку часам. Яны даюць адказы на пытанні, што па-сапраўднаму глыбока хвалююць нас і сёння. Ніяк не можа ўстарэць думка, што сацыялізм павінен ствараць найбольш спрыяльныя ўмовы для ўмацавання дружбы паміж народамі: «Сацыялісты разумеюць нацыянальную справу не як пры-

чыну нянавісці да іншых народаў, а як моцную пабудку (стымул.— *У. К.*) да працы на карысць усіх людзей свету. Бо толькі тыя людзі, што ахвяравалі сябе таму ці іншаму народу, зрабілі вялікую работу для ўсяго свету; тыя ж, што хваляцца, нібы яны працуюць для ўсяго свету (касмапаліты), звычайна шмат гавораць і нічога не робяць». «...Задача сацыялізму, які ніколі не йдзе проці прыроднага развіцця справы,— ёсць не клапаціцца аб зніштажэнні нацыянальных асобнасцяў, а наадварот культываваць іх, як усякую іншую прыродную сілу. Затое ж задачаю сацыялізму ёсць клапаціцца, каб розніцы ў псіхалогіі, у нацыянальнай творчасці не служылі асноваю спрэчак і барацьбы паміж народамі».

Для Беларусі гэтыя вывады былі асабліва актуальныя таму, што тут спрадвеку жылі дружна, плячо ў плячо, разам працавалі, бедавалі, пакутавалі ў часы агульных бедстваў побач з беларусамі таксама і рускія, і палякі, і яўрэі, і літоўцы, і татары, і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей. Паміж беларусамі і імі ніколі не было супярэчнасцей на нацыянальнай глебе. Затое ж здаралася і так, што карэнных жыхароў Беларусі з іх «мужыцкай» мовай спрабавалі прыніжаць, не раз з іх насміхаліся, а то і здзекаваліся, аб чым пераканаўча сведчаць многія творы мастацкай літаратуры.

Галоўнае ў спадчыне Алеся Гаруна сёння, бясспрэчна, яго мастацкія творы. Ён пакінуў прыкметны след у паэзіі, прозе, драматургіі ды і ў публіцыстыцы, якая, аднак, пакуль што не толькі не вывучана, але і не сабрана.

Празаічныя і драматычныя творы Алеся Гаруна значна пашыраюць жанравыя, ідэйна-эстэтычныя рамкі мастацкага асэнсавання жыцця.

Найбольш традыцыйнымі па форме можна лічыць апавяданні «Пан Шабуневіч» і «Свята». Першае з іх — спроба перадаць гісторыю змагання простага чалавека — местачковага рамесніка-шаўца — за права лічыць сябе і афіцыйна называцца беларусам, карыстацца ўсюды беларускай мовай, дачакацца беларускай школы.

Аднак, як пан Шабуневіч ні намагаўся, беларуская мова, заставалася заціснутай паміж рускай і польскай. Ва ўяўленні прадстаўнікоў адміністрацыйна-чыноўніцкай сістэмы той пары такой мовы не было, таму што яе быць не магло. На гэтай зямлі маглі жыць толькі або рускія, або палякі, або яўрэі, але ў афіцыйнай наменклатуры беларусы з іх мовай нідзе не значыліся. Не памагала і тое, што яны мелі свае друкаваныя выданні.

У апавяданні мы бачым вельмі паказальную і тыповую для Беларусі нацыянальна-моўна-рэлігійную сітуацыю, у якой праваслаўе існавала побач з каталіцызмам, рускія і палякі лічыліся бадай аднолькава паўнапраўнымі і раўнапраўнымі жыхарамі зямлі. І толькі беларушчыны ні адны, ні другія прызнаваць ніяк не хацелі. Іменна ў

абарону яе ў сваім штодзённым жыцці — і ў сутыкненнях з чыноўніцкім светам, і ў канфліктах са сваёй жонкай-каталічкай аж «з дзесятага калена» — выступае пан Шабуневіч, не апускаючы рук, нягледзячы ні на якія выпрабаванні.

Апавяданне «Свята» — гэта ўжо сцэна з жыцця ў Сібіры палітычнага пасяленца — выхадца з Беларусі. Па кампазіцыі, стылі, форме твор увабраў у сябе дасягненні традыцыйнай рэалістычнай навелы.

На першы погляд нічога тут няма незвычайнага. Вось ідзе сабе Грыневіч па дарозе ўжо не першы дзень, пераадольвае пешшу незлічоныя сібірскія кіламетры. Сам-насам са сваімі думкамі і ўспамінамі. А потым у вёсцы просіцца на начлег, трапляе ў лазню, пасля чаго была вячэра і гутарка з гаспадарамі — праўда, не сказаць каб асабліва цікавая.

Уся гэтая асноўная па памеры частка нічым асаблівым не ўражвае, хаця і ўяўляе сабой каларытны малюнак жыцця не толькі пасяленца, які, відаць па ўсім, задамавіўся і акліматызаваўся тут, але і карэнных сібіракоў. Гэта былі самыя звычайныя праявы паўсядзённага жыцця з яго нічым не адметнымі клопатамі, буднямі і святамі.

І раптам зусім нечаканы паварот, у выніку якога шырока разгарнуліся прасторавыя — геаграфічныя — рамкі падзей, прытым яны аказаліся ўплеценымі ў такі гістарычны кантэкст, што ахапіў амаль цэлае стагоддзе з жыцця беларускага народа.

Грыневіч сказаў пра сябе, што ён «політіческій». Яго крамольная дзейнасць ва ўяўленні чытача магла звязвацца перш за ўсё з рэвалюцыяй 1905—1907 гадоў. А старая жанчына ў гутарцы згадвае першае і другое паўстанні, гэта значыць 1830—1831 і 1863—1864 гады. Вось так нечакана ўстанавілася пераемная сувязь паміж трыма рэвалюцыйнымі выбухамі на беларускай зямлі.

У папярэдніх творах жыццё паказвалася, як гэта называюць, «у формах самога жыцця». А вось у апавяданні «Маладое» мы ўжо сустракаемся з выкарыстаннем прыёму фантастыкі: група людзей, якая ўцякла з астрога, магла праходзіць незаўважанай нават праз цэлы натоўп. Фантастыка дазваляе аўтару паказаць неадольную сілу і глыбіню пачуццяў, якія бяруць верх над розумам. Іменна прыроджанае пачуццё цікавасці да дзяўчыны аказалася ў юнака мацнейшым за інстынкт самазахавання і імкненне да волі. Малады ўцякач неасцярожнымі паводзінамі выдае сябе, і яго зноў вяртаюць у астрог.

У творы элемент фантастыкі яшчэ ўяўляецца нечым выпадковым і, можна сказаць, неабавязковым у кампазіцыйным плане твора, недастаткова апраўданым. Адчуваецца, што аўтар шукаў нейкі своеасаблівы мастацкі прыём або нетрадыцыйны мастацкі вобраз, каб увасобіць сваю думку.

Інакш успрымаецца фантастыка ў апавяданні «У Панасавым сяле». Яна становіцца фундаментам усёй ідэйна-мастацкай канцэпцыі твора. Супярэчлівыя і шматпланавыя падзеі падаюцца ў інтэрпрэтацыі незвычайнага наглядальніка — чорта з «нялюдскім розумам».

Самі падзеі разгортваюцца на беларускай зямлі, прытым нават Панасава сяло бачыцца нейкім закуткам Палесся, бо там пасяляюцца радавітыя палешукі са сваімі рэальнымі зямнымі норавамі, звычкамі, уяўленнямі, якія надзейна ўкараніліся ў іх псіхіку і ў побыт.

І ў той жа час палешукі — недарма ж яны на небе! — вызваляюцца ад найбольш істотных і трывожных зямных праблем — ад думак і клопатаў пра свой хлеб надзённы, пра зямлю, працу, пра ўсё тое, што складае аснову існавання кожнага селяніна.

Інакш кажучы, для герояў ствараюцца спецыяльныя ўмовы, у якіх не вісіць над імі кашмар паўсядзённага змагання за месца пад сонцам. Людзі трапляюць у рай, але з усімі сваімі зямнымі звычкамі, норавамі, традыцыямі.

А ці становяцца яны адразу святымі? Ні ў якім разе. Кожны з іх застаецца самім сабой. Адсюль чытач можа зрабіць вывад, што ў якія б умовы чалавек ні трапіў, у яго заўсёды захаваецца нешта сваё атрыманае ў спадчыну ад стагоддзяў, выпрацаванае ўласным лёсам, побытам, асяроддзем.

У сувязі з гэтым напрошваецца адна думка: ці Панасава сяло на небе не ўяўляе сабой алегарычнай формы паказу нейкага будучага грамадства, у якім людзі атрымаюць зусім новыя магчымасці ўладкаваць свой лёс? І цікава, што тое жыццё не такое ўжо райскае, якім яно павінна было б уяўляцца.

Дыялог паміж чортам і апавядальнікам пачынаецца з гутаркі пра канец свету, аб якім ходзяць у народзе настойлівыя чуткі. І вось гэты неспадзяваны госць растлумачвае, што тыя чуткі — адна з «качак», якіх столькі «пялёскаецца» на «газетных хвалях».

Канец свету і чорт — гэта тое, чым найбольш моцна і надзейна спрадвеку палохалі чалавека. А ці трэба іх баяцца? Сам па сабе выгляд гэтага чорта — даволі-такі традыцыйны і ў той жа час незвычайны, нейкі адухоўлены — зусім не палохае, а ў яго разважаннях і сапраўды бачацца нечалавечы розум, дасведчанасць і добрае веданне не толькі таго, што робіцца на зямлі, прытым за далёкімі марамі-акіянамі, аж у Амерыцы, але нават і на небе, у адным з яго закуткаў. З апавядання мы пераконваемся, што і сапраўды не такі чорт страшны, як яго малююць. Народная мудрасць даўно гэта засведчыла.

У сваю чаргу чорт са сваім веданнем таго, што дзеецца на зямлі і на небе, адным махам адвяргае чуткі пра набліжэнне канца свету. А калі ў святле гэтых алегорый зірнуць на зямныя справы, дык мож-

на зрабіць вывад аб тым, што няма чаго, няма патрэбы баяцца ўсяго таго, чым могуць чалавека палохаць газеты.

У заключных радках апавядання аўтар асцярожна скіроўвае ўвагу чытача ад падзей у далёкай Амерыцы, дзе на чутках аб канцы свету нажываюцца цэлыя кампаніі, і ад Панасавага сяла на небе да рэальных беларускіх спраў:

«...Што ж у вас тут, якія навіны?

— Ад ліха — ціха, дабра не чуваць...

— Ці хутчэй: «Папаўся ў нерат — ні ўзад ні ўперад»? А Рада што?

— Рада — як Рада...»

Вось гэты развітальны абмен думкамі, увасобленымі ў шыракавядомыя прыказкі, уяўляецца зусім не выпадковым. Многія ў той час рабілі выгляд, пераконваючы сябе і другіх, быццам Рада уяўляла сабой орган улады ў Беларусі, выражала інтарэсы народа і мела нейкае рэальнае значэнне.

«Дабра не чуваць» — гэта і сапраўды была самая адчувальная рэальнасць. А каб падкрэсліць іменна такую думку, у сваю чаргу чорт удакладніў: «Папаўся ў нерат — ні ўзад ні ўперад». Гэта ўжо гучыць як шырокае абагульненне аб лёсе ўсяго беларускага народа той пары.

Можна нагадаць, што апавяданне апублікавана ў 1920 годзе, у перыяд чужаземнага панавання. Колішнія ілюзіі аб поўнай незалежнасці нашай зямлі і самастойнасці народа, увасобленыя ў самой назве вядучай газеты 1917—1918 гадоў «Вольная Беларусь», рассеяліся. І невыпадкова на змену ёй прыйшла газета «Беларусь».

Пры ўсіх гістарычных выпрабаваннях і пакутах ваеннай пары народ беларускі заставаўся на сваёй зямлі, і найбольш сумленныя людзі няспынна думалі аб яго лёсе, яго будучыні, аб месцы беларусаў у сям'і суседніх народаў.

Дзеячы беларускіх палітычных партый па-рознаму ўяўлялі сабе шляхі далейшага развіцця нашага грамадства. Алесь Гарун, як мы бачылі з пракламацыі «Ко всем трудящимся», звязваў свае найбольш светлыя надзеі з сацыялістычнымі пераўтварэннямі, з канчатковым нацыянальным вызваленнем, знішчэннем сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасці ў любых формах і праявах. Гісторыя — больш блізкая і далёкая — бліскуча пацвердзіла глыбіню разумення ім найскладанейшых грамадскіх працэсаў і магчымых напрамкаў іх развіцця.

Алесь Гарун з усёй пераканаўчасцю апраўдваў для Беларусі сацыялістычны шлях развіцця. Аднак яму было не па дарозе з такімі дзеячамі, як В. Кнорын, што адмаўлялі само існаванне беларускай нацыі. Можна тут нагадаць шырокавядомае выказванне таго дзеяча, зробленае яшчэ ў 1918 годзе: «Мы считаем, что белорусы не

являются нацией и что те этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты. Нашей задачей является не создание новых наций, а уничтожение старых национальных рогаток. Белорусское же движение является таким воздвижением новых национальных рогаток, не существовавших до сих пор, а поэтому коммунисты не могут в каком бы то ни было виде принимать участие в этом движении» («Звезда», 1918, 6 октября).

Такая пазіцыя для патрыятычна настроеных беларускіх дзеячаў была непрымальнай.

У сваёй прозе Алесь Гарун выходзіць далёка за рамкі традыцыйных для беларускай літаратуры тэм і жанравых форм. Гэта можна сказаць не толькі пра «Панасава сяло», але і пра апавяданне «П'ера і Каламбіна», у якім аўтар пераносіць чытача ў далёкія ад уяўленняў і штодзённага побыту звычайнага беларускага селяніна абставіны жыцця.

«П'ера і Каламбіна» — празаічны трыпціх, які аб'ядноўвае тры розныя апавяданні, звязаныя паміж сабой адной толькі тэмай кахання, якое можа аказацца мацнейшым за пачуццё прывязанасці да наладжанага дабрабыту і нават за мацярынскі інстынкт.

Пісьменнік не ставіць пытання аб тым, чаму так можа здарыцца. Праўда, у апошняй частцы трыпціха ён усё ж такі спрабуе даць адказ на яго: Каламбіна страціла пачуццё сімпатыі да П'ера пасля таго, як пабачыла яго бездапаможнасць у першым, здавалася б, нескладаным жыццёвым выпрабаванні, калі ён не заступіўся ні за яе, ні за сябе, дазволіўшы над сабой насміхацца нейкаму бамбізу. Пераканаўшыся ў гэтым, дзяўчынка адвярнулася ад яго. Каханне без поўнага даверу быць не можа.

Увесь гэты баль-маскарад — вядома, ва ўмовах вайны і рэальнага беларускамоўнага асяроддзя ненатуральны — успрымаецца як тэатральная пастаноўка, адарваная ад канкрэтнага паўсядзённага жыцця. Але ў цэлым пачуцці і паводзіны герояў жыццёва апраўданыя, зразумелыя і натуральныя. І ў гэтым іх кардынальнае адрозненне ад вобразаў П'ера і Каламбіны з п'есы А. Блока «Балаганчык» (1906), дзе героі — усяго толькі прывіды з абстрактнымі, ірэальнымі паводзінамі. Іх дзеянні, дыялогі і песні чаргуюцца без якой бы там ні было выразнай, лагічна апраўданай паслядоўнасці. Унутранай логікі развіцця падзей, абавязковай для рэалістычнай літаратуры, тут нельга заўважыць. Усё чаргуецца — непаслядоўна і выпадкова — быццам у сне, у якім сцэны і вобразы набягаюць, наплываюць адзін на адзін.

Такая творчая манера ўвасаблення паэтычнай думкі расшыфроўваецца даследчыкамі як праекцыя душы аўтара з яе раздвоенасцю, з яе пошукамі прымірэння паміж супрацьлеглымі светамі — зямным і містычным. Але абодва яны з'яўляюцца аднолькава непрымальны-

у горлі? Што гэтае падсуседства абдзёрла, абгалацiла яго і пазбавіла мення і ўласнага імені?

Не,— Масква і Варшава не святы́, а страшны выраз для беларуса, і не Расію і Польшчу назаве ён маткаю сваею! Маткаю народу Беларускага будзе яго «тутэйшая», Беларуская зямля, вольная, незалежная Народная Беларусь. А калі вы, калі «обыватэльству» вашаму так жадаецца «святоі спаяльнасці», дык можаце саўсім зліцца з кім ахвота вашая будзе, але зямельку нашую, каторую вы з такім запалам збіраецеся бараніць (ад каго і якім спосабам?), мусіце пакінуць народу. Вы пакепліваеце з нас, што мы так заняты зямельным пытаннем. Так,— бо зямельнае пытанне — частка нашага нацыянальнага пытання, бо народ наш да гэтага часу быў у аблозі. Навокал яго сядзелі ворагі і з усіх бакоў будавалі «пляцоўкі» — у грамадскіх установах — маскоўскія, у дварох — польскія. Зруйнаваць гэтыя пляцоўкі — гэта першы крок у бок аслабанення нашага народу ад усякага ўціску: і матэрыяльнага і культурнага. З гэтага павінна пачацца нашае з вамі паквітанне... А потым? Потым прыходзьце і служыце народу нашаму. Іншага шляху для вас мы не бачым, бо яго няма.

На Беларусі, сярод сялянства, мяшчанства і засцянковай шляхты палякаў няма, апроч тых, каторым вы сваею «культурнай працаю» задурылі галаву і закруцілі мазгі. Калі ж нам даводзяць праціўнае, то гэта сведчыць толькі, што там моцна прышчэплена тая навука бескрывавых забораў, да якіх так здольны нямецкія імперыялісты. Што гэта так — пра гэта даводзіць нам той запал, з якім вы трымаецеся за свае пляцоўкі, як, напр., у касцелі, адкуль праганяеце ксяндзоў беларусаў і беларускую мову,— той запал, з якім вы выстаўляеце свае культурныя заслугі, і той паспех, з якім збіраеце свае войска на нашай зямлі — проціў каго? Проціў Германіі? Цэнтральных дзяржаваў? Ваш пратэст проці III украінскага універсалу, дэлегацыя «обыватэльства Літвы і Беларусі» ў Берлін аб прылучэнні Літвы і Беларусі да Польшчы — даюць ясны адказ, дзеля якой мэты арганізуеце вы на нашай зямлі польскія легіоны.

Але не будзе гэтага!..

*А. Прушынскі*

# УВАГІ ДА НАЦЫЯНАЛЬНАГА РУХУ

«У істоці ўсякі нацыянальны рух мае мяшчанскі (буржуазны) характар і заўсёды становіцца ў адпор сацыяльным надзеям і дамаганням работніцкага стану».

«Нацыянальнае пачуццё падтрымліваецца і шырыцца валадарнымі станамі, каторым трэба падзяліць работнікаў, каб потым лягчэй было разбіваць іх у борках за эканамічныя паляпшэнні».

Такія, цалкам хвальшывыя погляды пашыраюцца шмат кім з правадыроў сучаснага (з бальшавіцкім нахілам) сацыялістычнага руху, якія, добра запамятаваўшы сабе словы граматы камуністаў: «работнікі не маюць бацькаўшчыны. Нельга пазбавіць іх таго, чаго ў іх няма», забыліся саўсім аб правіле: «спосаб разумавання марксізму дыялектычны».

Заданнем нашым не ёсць спрэчка з такімі сацыялістамі, але залічаем не лішнім сказаць некалькі слоў аб прычыне, змушаючай іх адступаць ад здаровага спосабу разумавання і правідловых поглядаў.

Прычына гэтая — псіхалагічнага парадку і мае пачатак у характары той працы, якую прыходзіцца рабіць сацыялісту.

Сацыялістычны ўстрой — антытэза сучаснага ўстрою. Ён мае запанаваць толькі на грузах цяперашняга супольства [1]. Сацыялістычная ідэя — гэта брадзільны пачатак новых кшталтаў жыцця ў цяперашнім устрою, заўсёды яму варожы і не свой. Праца сацыяліста скіравана да будавання гмаху новага жыцця сярод сучаснасці, каторую ён няўпынна намагаецца зруйнаваць, праз што заўсёды павінен быць на старожы, бо навокал яго непрыяцельскі кош [2]. Тысячы небеспячэнстваў пагражаюць яму — воіну за будучыну — у кожным мамэнце, а наперадзе свеціць вялікая «ваенная дабыча». І няма дзіва,

---

[1] Слова «супольства» азначае гэтта суму дзяржаўна- і прыватнапраўнічых, таксама гаспадарчых адносін, якія пануюць паміж людзьмі, т. е. тое, што ў расійскай тэрміналогіі разумеецца пад слоўмі «социальный порядок». *(Заўвага Алеся Гаруна.)*

[2] У старыну так называўся ваенны лагер — казацкі або татарскі. Адсюль паходзіць прыметнік «кашавы» (атаман).

што часамі ў ваяўнічым запале, а часам паддаўшыся слабасці, ён можа згубіць меру відочных рэчаў і часу. Бо і сацыліст мусіць прызнацца: «чалавек я, і ўсё чалавечае мной уладае». Тады яму здаецца, што мэта, да якой кіруецца ўсё яго духоўнае жыццё, ужо саўсім блізка і каб яе дастаць — досыць ступіць яшчэ адзін толькі крок ці выцягнуць руку. Тая грамадская сіла, на якую апіраючыся спадзяецца ён дасягнуць свае мэты,— пралетарыят, работнікі,— перацэніваецца[1] ім у такі мамэнт, здаецца мажнейшай, чым ёсць напраўду, бо яму, каторы заглядзеўся ў будучыну, чакаючы найбарзджэйшага яе зышчэння[2], моцна хочацца ўзмацавання гэтай сілы, каб, калі можна, зараз жа пераскочыць з «панства прымусу ў панства свабоды».

Моцнае бажанне найхутчэйшага зышчэння яго ідэалу, а часамі, у слабых людзей, і жаданне самому ўступіць у «зямлю абяцаную» — вось той псіхалагічны чыннік[3], які часамі змушае сацыяліста адступаць і ад гістарычнай праўды і ад правідловага спосабу разумавання.

Чыннік гэты, здаралася, панаваў часова і над людзьмі вялікай разумовай сілы і здольнасцяў. Сацыялісты-брэдоўцы (утапісты), як Оўэн, Сен-Сімон, Фур'е, Курбэ,— людзі вялікай аналітычнай моцы, найлепей за ўсіх сваіх сучаснікаў бачыўшыя хібы акаляючага іх свету, рабіліся дзяцьмі, як толькі пачыналі думаць аб будучыні. Ім здавалася, што для шпаркай, феерычна простай перабудовы супольства, апрача трафна[4] накрэсованага плану, трэба саўсім нямнога: толькі агульнай згоды, толькі паспалітай[5] добрай (як у іх) волі.

І з вядомых сацыялістаў т. зв. «навуковай школы» не ўсе былі чужымі гэтаму граху. Напрыклад, калі ў 1898 г. германская сац.-дэм. партыя атрымала першы раз на выбарах у рэйхстаг каля 3-х мільёнаў галасоў за сваіх кандыдатаў, адзін з бацькоў гэтай школы, Энгельс, паддаўся самаашуканству і прарочыў, што ў хуткім часе, усяго праз некалькі гадоў, мусіць наступіць сацыялізм.

Гэты ж чыннік, здаецца нам, ляжаў у грунце моцнага проціміліарнага эрвэістскага руху ў Францыі, хаця

---

[1] Перабольшваецца.
[2] Здзяйснення.
[3] Фактар.
[4] Удала, дакладна.
[5] Агульнай, усенароднай.

жыццё зрабіла потым з Эрвэ[1] заядлейшага мілітарыста.

Ён жа выклікае ў жыццё і анархізм, які ў сваім тэарэтычным засноўку і практычных праявах ёсць не больш як бяссільны пратэст процiў сучаснасці.

Калі з такога пункту паглядзець на праявы расійскага грамадскага жыцця, пачынаючы ад марца 1917 году, то шмат якія з іх зробяцца і яснейшымі і больш зразумелымі, а паміж імі і тая неспагаднасць, з якой расійскія «цэнтральныя» і «левыя» сацыялісты адносіліся к праявам нацыянальнай свядомасці і нацыянальна-палітычнага руху сярод невялікарускіх народаў імперыі. «Дзеля таго, што ім так бажалася — ім так і здавалася». Ім, расійскім сацыялістам, такі доўгі час у кляшчатках найцяжэйшага самаўладства марыўшым аб свабодзе і так раптоўна, неспадзявана для сябе пазбаўленым усякіх перашкод, выскачыўшым з падполля на шырокае поле дзяржаўнага будаўніцтва, уроілася, што «другі дзень пасля сацыяльнай рэвалюцыі» мае быць «заўтра», а «першы» ўжо настаў «сягоння». Колькасць гэтых тэрмінаў не ўсімі, канечне, лічылася аднаковай, што залежала толькі ад характараў і дасвядчэння асобных людзей, але ад ніякіх праграмаў і тэорыяў.

Людзі больш спакойнага характару і лепшага тэарэтычнага і жыццёвага дасведчання расцягвалі «сягоння» і аддалялі «заўтра» на няпэўна доўгі час; гарачэйшыя з натуры аблічалі «сягоння» ў 10—15 гадоў, а «заўтра» паказвалася ім ужо ў малюнку праўдзівага Эдэму[2]; а маласвядомыя і саўсім цёмныя навіцыушы[3] сацыялізму, у якіх перарабілася большая часць салдацкай, работніцкай і сялянскай люднасці ў Расіі, думалі проста: што «сягоння» гэта зараз жа,— як сказаць, а «заўтра» мае быць праз 24 гадзіны і да такога разумення стараліся стасаваць свае ўчынкі.

І праявы нацыянальнага руху (які здаецца агульнанародным, але бывае такім вельмі рэдка) здаваліся

---

[1] Эрвэ Гюстаў (1871—1944) палітычную дзейнасць пачынаў у Французскай сацыялістычнай партыі. У Французскай секцыі рабочага інтэрнацыянала ўзначальваў ультралевы антымілітарысцкі напрамак. У. І. Ленін пісаў пра «паўанархічныя недарэчнасці» эрвэізму (Поўн. зб. тв. Т. 16. С. 72. 86—87). Напярэдадні першай сусветнай вайны Эрвэ пераходзіць на буржуазна-шавіністычныя пазіцыі. У 30-х гадах стаў прыхільнікам фашызму.

[2] Эдэм — біблейскі рай.

[3] Навічкі.

большай часці з іх (расійскіх сацыялістаў) і непатрэбнымі і шкадлівымі для інтарэсаў неваладарных станаў, работніцкага і сялянскага. Нашто дзяліцца, калі наступіў час агульнага карыстання агульным дабром? Дзеля чаго драбіць свае сілы, калі патрэбна з'яднанне ўсіх для абароны «новага супольства»? Нашто гэтыя «мовы», «культуры» — забыткі старога свету, калі заступіла на зямлю святая вестка ўсясветнага брацтва? Няйначай — гэта «работа мяшчанства». А калі нават гэта рух і самога працоўнага люду, то гэта адсталасць, якой не павінна быць месца ў сучаснасці. І адсюль: вайна словам, агнём і мячом проці нацыянальнага адраджэння. Вось прычына, якая змушае некаторых правадыроў сацыялізму ў Расіі і іх вучняў шырыць сярод паспольства хвальшывыя погляды на нацыянальнае пытанне і нацыянальны рух.

Другой няма. Праўдзівы, не заражаны псіхозам сацыяльнага бунту сацыяліст ніколі не ашукаецца ў значэнні слоў граматы камуністаў: «работнікі не маюць бацькаўшчыны. Нельга пазбавіць іх таго, чаго ў іх няма».

# ЛІСТЫ

## Невядомаму адрасату

...Нягледзячы на тое, што страшэнне сумна жыць здалёк ад роднай нашай старонкі, ад сваіх, а ўжо прызвычаіўся крыху да гэтых месц і народу, хаця ён мне і не надта падабаецца некаторымі старанамі свайго характару.

Тутака вы не спаткаеце таго, што ў нас: едзе які-небудзь дзядзька; ты ідзеш: «пахвалёны!» — «на векі векаў» — «сядай» — «дзякую» ці «падвязіце, дзядзька!..». — «сядай» — і ты паехаў.

Тутака ў нас чалавек спаткае падарожнага, дык часцей усяго так праедзе, калі незнаёмы; папросіць падвязці, пытае: «сколькі даш?» «Капейкі» іграюць у тутэйшага люду вялікую ролю, і браць іх любяць з каго ні папала і як найболей. Цяперака далей — «чалдоны» п'юць гарэліцу нічога сабе, а шынкоў колькі хочаш — што ні хата, то шынок. Ось і наш гаспадар, гдзе мы жывем,— сам не п'е; жонка толькі ў кампаніі, калі ідзе агульная гулянка: вяселле, свята ці што іншае. І ось у іх гарца гарэлкі часам не стае на тыдзень.

Ну, годзе аб гэтым — народ як народ, нічога сабе. У гэтым годзе ў Кірэнскі павет Іркуцкай губ. прыйшло 4 партыі, а ў іх многа «палітыкаў». Калі гэта перастануць пхаць сюды народ?! І так тутака людзі галадаюць, бо для ўсіх няма работы, дык і не ўсе ўмеюць што рабіць. Нядаўна ездзіў у Кірэнск і бачыў тамака бабусю Брэшка-Брашкоўскую. Яе прыслалі ў Кірэнск, каб мець лепшы надзор за ёю. Сцерагуць, як могуць, дык і то баяцца, што ўцячэ. Чуў я, што і спраўнік хоча прасіць дазвалення (ці ўжо просіць) пасадзіць яе ў крэпасць, а то не можа паручыцца, што яна не ўцячэ. А баек каля яе... нагаварылі колькі?! І мільёншчыца яна — цэлых паўтара

мільёны грошай мае; і нейкая там «партія» пад яе ўластнай рукой знаходзіцца і т. д. і т. п. Ну, ось і бачыў гэтага цудоўнага чалавека, каторага так баяцца. Што за мілая кабета?!. Мае ўжо больш 65 гадоў, і столькі яшчэ духоўнай сілы ў сябе таіць і энергіі, што іх, здаецца, стане яшчэ на цэлы век. Ласкавая, як і сапраўды бабуля; простая, як вясковая кабеціна; жывая і вясёлая, як бы гадоў з 35 для яе дарма прайшлі. Распытывалася, як жывецца. Раіць асесці тутака і ўзяцца за што-небудзь такое гаспадарскае са сваім домам усім такім. А «Расея маўчыць; вы цяперака ёй не патрэбны — як трэба будзе, сама скліча вас». Дык ось каго я бачыў — буду памятаць яе доўга. Ось і ўсё найцікаўшае з майго жыцця ў далёкім Сыбіру.

*Алесь Гарун*

Высокапаважаны Пане Ластоўскі!

Пасылаю Пану, для «Н[ашай] Н[івы]» зноў сваіх колькі вершаў. З песнямі пакуль што маўчу. Ёсціка ў галаве пара матываў, але пакуль што заняты другім: як урву якую вольную часінку, то пакладаю на пісанне драмы для беларускага тэатру. Драма ў вершах, з сучаснага нам жыцця і будзе меці тытул «Дэпутат». Можа, крыху другі, але кончэ з «дэпут». Першы акт нà-перша скончыў, пачаў другі, але калі ўсё давяду да канца — не ведаю. А покуль што жычу ўсяго найлепшага і, моцна паціскаючы руку Пану, застаюся заўсёды ўдзячны і прыхільны.

*А. Прушынскі*
1912.30/X
Кірэнск

Дарагі Тарасік!

Маю табе нешта сказаць важнае перад тваім ад'ездам у Варшаву. Інтэрас важны, прашу зайсці, бо сам хадзіць не магу — забараніў доктар. Каб ты прынёс якую-небудзь кніжачку пачытаць, вельмі б дзякаваў, бо сяджу без усякага занятку. Зайдзі канечне.

Hotel Palac, № 158 *А. Прушынскі*

# Каментарыі

## «МАТЧЫН ДАР»
## (1907—1914)

Вершы зборніка друкуюцца па кн.: Алесь Гарун. Матчын дар. Друкарня Я. Грынблята, Менск, 1918.

Творы ў зборніку друкуюцца не ў храналагічным парадку.

*«Чаму з маленства, з ураджэнства...» (с. 32)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1911, № 40 пад загалоўкам «Роднаму краю». Друкаваўся ў «Беларускім календары «Нашай нівы» на 1913 г. У варыянт зборніка «Матчын дар» унесены значныя змены.

*З тваёі глебы, з тваёга неба* — дыялектныя формы ўскосных склонаў займеннікаў *твая, тваё.*

*Начныя думкі (с. 33)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1908, № 23. Друкаваўся ў «Беларускім календары «Нашай нівы» на 1911 г.

*«Як надарыцца мінута...»* (с. 34)

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1918, № 33.

*«Ты, мой брат, каго зваць Беларусам...» (с. 38)*

Першы варыянт верша «Беларусам у чатырохлецце «Нашай нівы» друкаваўся ў «Нашай ніве», 1910, № 47. (Гл. стар. 118 гэтага выдання.)

*Юдам (с. 39)*

Упершыню — зборнік «Калядная пісанка», 1913.

*Вы ... імя вам Іуды.* — У выданні 1918 г. было: *«Вы ... імя вам Юды».* Выпраўлена паводле выдання 1929 г., дзе робіцца спасылка на аўтограф. Форма *«Іуды»* больш адпавядае рытму радка.

*Песня-звон (с. 41)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1912, № 41.

*Вяселле (с. 45)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, № 45.

*Журба (с. 46)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1912, № 9.

*Восень (с. 46)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1911, № 37—38.

*Мае думкі (с. 47)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1910, № 4.

*Навакол... (с. 48)*
Упершыню — газ. «Наша ніва», 1912, № 27. Друкаваўся ў зборніку «Нашай нівы», 1912; у «Беларускім календары» на 1916 г.

*Ветру (с. 50)*
Упершыню — газ. «Наша ніва», 1909, № 35—36.
*Завіруха (с. 50)*
Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 36, з паметкай: 1914 г. Сыбір.

*Думы ў чужыне (с. 51)*
Упершыню — газ. «Наша ніва», 1912, № 27. Друкаваўся ў зборніку «Нашай нівы», 1912; у «Беларускім календары» на 1916 г.

*З песняў няволі (с. 54)*
Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 24, з паметкай: Сыбір, 1912 г.
*Я. Л-у* — Язэпу Лёсіку. Алесь Гарун адбываў з ім ссылку ў Сібіры.

*Nocturno (с. 62)*
*... і ту ж... (паланізм)* — і тут жа.
*Няма пакуты дзе — няма пазнання.*— У выданні 1918 г. было: «*Няма пакуты дзе — дзе няма пазнання.* Выпраўлена ў адпаведнасці з выданнем 1929 г., дзе робіцца спасылка на аўтограф.

*«Хто сказаў: «І я з народам...» (с. 65)*
Упершыню — газ. «Гоман», 1917, 1 мая.

*Ідуць гады (с. 65)*
Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, № 5.

*Навука (с. 65)*
Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 29.
*«Як ліст вярбінкі маладой...» (с. 66)*
*У мора я.— А вернешся назад?* — У выданні 1918 года было: «*У мора сіняе.— А вернешся назад?*» Выпраўлена паводле выдання 1929 г., дзе робіцца спасылка на аўтограф.
*Цячы ракой з-пад горнае грады.*— У выданні 1918 г. было: «*Цячы ракой з-над горнае грады*». Выпраўлена паводле выдання 1929 г., дзе робіцца спасылка на аўтограф.
*Нязнаны госць (с. 67)*
*Па іншаму жыцці* — дыялектныя склонавыя формы.
*Матчын дар (с. 68)*
Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, № 28.
*Як жа шанаваці...*— У выданні 1918 г. было: «*Як іх шанаваці...*» Выпраўлена паводле выдання 1929 г., дзе робіцца спасылка на аўтограф.
*Ноч (с. 72)*
Упершыню — газ. «Наша ніва», 1912, № 21, з паметкай: 27.XII.1911.
*«Хрыстос нарадзіўся!..» (с. 73)*
*Цяпер я Тамаш і не веру...*— Тамаш (Фама) — евангельскі персанаж, які не паверыў звесткам аб тым, што Хрыстос уваскрос.
*А ў ім лютаванне над меру.*— У выданні 1918 г. было: «*А ў ім матаванне над меру*». Выпраўлена паводле выдання 1929 г., дзе робіцца спасылка на аўтограф.

*Малітва (с. 73)*
Упершыню — газ. «Наша ніва», 1912, № 51—52, з паметкай: 26/X—1912.

*Паэту (с. 75)*
*Мне сэрца кроіцца* — паланізм.
*У канечнае патрэбе* — дыялектная форма.

*Слабасці (с. 75)*
*Слязой спаўчуцця...* — У выданні 1929 г. выпраўлена на *«спачуцця»*. Форма, выкарыстаная А. Гаруном, утворана пад уплывам польскага слова współczucia — спачування.

*Жыццё (с. 76)*
Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 32.

*Муляру (с. 77)*
Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, № 34.

*Вясна (с. 78)*
Упершыню — газ. «Наша ніва», 1910, № 18. Друкаваўся ў газ. «Гоман», 1917, 24 красавіка.

*Вецер (с. 79)*
Упершыню — газ. «Наша ніва», 1910. № 23—24. Друкаваўся ў «Беларускім календары «Нашай нівы» на 1912 г.
*Сказаў слоўца...* — У выданні 1918 г. было: *«Сказаў слаўцо...»* Выпраўлена паводле выдання 1929 г., дзе робіцца спасылка на аўтограф.

*Хаўтуры (с. 85)*
*Цалавала жанулька свайго мужанька.* — У выданні 1918 г. было: *«Цалавала жанулька свайго мужалька»*. Выпраўлена паводле выдання 1929 г., дзе даецца спасылка на аўтограф.

*Казка (с. 87)*
Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, № 48.

*Жабрачка (с. 91)*
Упершыню — зборнік «Калядная пісанка», 1913.

*Сын (с. 93)*
*Ды да роднай маткі.* — У выданні 1918 г. было: *«Да радзонай маткі»*. Выпраўлена паводле выдання 1929 г., дзе даецца спасылка на аўтограф.

*Каму што (с. 97)*
Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1910, № 40, дзе ўпершыню апублікаваны. Друкаваўся ў «Беларускім календары» на 1914 г., у зборніку «Апавяданні і легенды вершам розных аўтараў», Вільня, 1914, у газ. «Гоман», 1917, 7 жніўня.

*Варожба (с. 98)*
Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 30, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Шчасце Мацея (с. 112)*
Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1910, № 25, дзе ўпершыню апублікаваны. Друкаваўся ў зборніку «Апавяданні і легенды вершам розных аўтараў», Вільня, 1914.

# ВЕРШЫ, ЯКІЯ НЕ ЎВАЙШЛІ Ў ЗБОРНІК «МАТЧЫН ДАР»

*Януку Купале (с. 118)*
Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1908, № 21, дзе ўпершыню апублікаваны. Першы друкаваны твор Алеся Гаруна. Прысвечаны зборніку Янкі Купалы «Жалейка».

*Беларусам у чатырохлецце «Нашай нівы» (с. 118)*
Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1910, № 47, дзе ўпершыню апублікаваны. Пад гэтай назвай у зборніку «Матчын дар» апублікаваны зусім новы верш. (Гл. заўвагу да стар. 38.)

*«Нічога на небе...» (с. 119)*
Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1913, № 7, дзе ўпершыню апублікаваны. Друкаваўся ў «Беларускім календары» на 1917 г.

*Праводзіны (с. 119)*
Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1914, № 37, дзе ўпершыню апублікаваны. Друкаваўся ў зборніку «Дзень штукарства», Вільня, 1914, з паметкай: 1914, 14/VIII.

*На варце (с. 120)*
Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1915, № 21, дзе ўпершыню апублікаваны, з паметкай: Люты, 1915 г.

*У чужыне (с. 121)*
Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1915, № 15, дзе ўпершыню апублікаваны, з паметкай: 1915 г., 1 марца.

*Чалавечая кроў (с. 122)*
Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1915, № 22, дзе ўпершыню апублікаваны, з паметкай: 15 марца 1915 г. Друкаваўся ў зборніку «Зажынкі», 1919, пад назвай «Чырванюткая кроў».

*У ноч пад Новы год (с. 123)*
Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 1, дзе ўпершыню апублікаваны, з паметкай: 1916 г.

*На сяло (с. 123)*
Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 8, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Ён не згіне... (с. 124)*
Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 9, дзе ўпершыню апублікаваны, з паметкай: 4/III 1918 г.

*Апякун (с. 125)*
Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 12, дзе ўпершыню апублікаваны, з паметкай: 23/III 1918 г. Друкаваўся ў газ. «Гоман», 1918, № 42.

*На Віціме (с. 126)*
Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 14, дзе ўпершыню апублікаваны. Друкаваўся ў зборніку «Дыяменты беларускага прыгожага пісьменства», Кіеў, 1919.

*Лірнік (с. 127)*
Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 20—21, дзе ўпершыню апублікаваны. Напісаны ў сувязі са смерцю Каруся Каганца.

*Спогадзь (с. 127)*

Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 29, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Край няволі (с. 129)*

Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 31, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Народ (с. 130)*

Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 31, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Пажар (с. 131)*

Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 39—40, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Трохлінейка-магазынка (с. 131)*

Друкуецца паводле час. «Часопісь», 1919, № 3—4, упершыню — газ. «Беларуская рада», 1917, № 1. Друкаваўся ў зборніку «Зажынкі», 1919.

*Паходная (С. 132)*

Друкуецца паводле час. «Часопісь», 1919, № 3—4. Упершыню — газ. «Беларуская рада», 1917, № 1. Друкаваўся ў газ. «Гоман», 1918, № 28.

*«Брацця, к агульнаму шчасцю...» (с. 133)*

Друкуецца па зборніку «Дзень Чырвонае Арміі», 1919, дзе ўпершыню апублікаваны. Друкаваўся ў зборніку «Зажынкі», 1919.

*Дакоры (с. 134)*

Друкуецца паводле газ. «Беларускае жыццё», 1919, № 11, дзе ўпершыню апублікаваны.

*З астрожных картак (с. 135)*

Друкуецца паводле газ. «Беларускае жыццё», 1919, № 11, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Хвейнаму другу (с. 137)*

Друкуецца паводле газ. «Беларускае жыццё», 1919, № 22, дзе ўпершыню апублікаваны, з паметкай: Мінск, у верасні 1919 г.

*У гары і доле (с. 138)*

Друкуецца паводле газ. «Беларусь», 1920, № 37(93), дзе ўпершыню апублікаваны, з паметкай: 28.XII.1919 г.

*Самсон (с. 140)*

Друкуецца паводле газ. «Беларусь», 1920, № 47(103), дзе ўпершыню апублікаваны, з паметкай: 28 лютага 1920 г.

*Самсон* — біблейскі асілак. Яго подзвігі, паводле свяшчэннага пісання, звязаны з эпохай войнаў паміж ізраільцянамі і філістымлянамі. Самсон адзін мог забіць цэлую тысячу ворагаў. Гэта ён разадраў пашчу льва, які сустрэўся яму па дарозе.

Аднойчы яго чарговая любоўніца Даліла выведала сакрэт яго сілы і выдала філістымлянам. Самсона ўзялі ў палон, закавалі ў ланцугі і асляпілі. Але праз нейкі час бог дараваў яму віну, вярнуў сілу. І Самсон магутнымі рукамі разбурыў слупы, на якія апіраўся філістымлянскі храм, пахаваўшы тры тысячы ворагаў, што здзекаваліся і насміхаліся з яго. Загінуў і ён сам.

*«Баалавай святыні».*— Баал — бог ураджаю і дабрачыннасці, адзін з галоўных багоў семіцкіх плямён.

*Шлюб (с. 141)*
Друкуецца паводле газ. «Беларускае жыццё», 1920, № 7(29), дзе ўпершыню апублікаваны, з паметкай: 12/X 1918 г.

*Пралескі (с. 142)*
Друкуецца паводле час. «Рунь», 1920, № 5—6, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Трэны (с. 142)*
Друкуецца паводле час. «Рунь», 1920, № 9—10, дзе ўпершыню апублікаваны, з паметкай: Зіма 1916 г. Гэта апошні прыжыццёвы друкаваны твор.

*Адляцела душа (с. 143)*
Друкуецца паводле газ. «Беларуская рада», 1917, 29 лістапада, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Жыццё (с. 144)*
Друкуецца паводле газ. «Беларуская рада», 1917, 29 лістапада, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Бажанне (с. 144)*
Друкуецца паводле газ. «Вольны сцяг», 1921, № 1, дзе ўпершыню апублікаваны, з паметкай: Барка на Лене, 1914 г.

*Кліч (с. 145)*
Друкуецца паводле час. «Рунь», 1920, № 7—8, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Песня капачоў (с. 145)*
Друкуецца паводле газ. «Вольны сцяг», 1921, № 1, дзе ўпершыню апублікаваны, з паметкай: Прыіск «Пракопьевскій». Зіма 1915 г.

*Ідзенне (с. 146)*
Друкуецца паводле газ. «Вольны сцяг», 1921, № 1, дзе ўпершыню апублікаваны, з паметкай: Восень 1918 г.

*«Каўказ» (с. 147)*
Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 3, дзе ўпершыню апублікаваны.

## ПАЭТЫЧНЫЯ ТВОРЫ, АПУБЛІКАВАНЫЯ ПАД ПСЕЎДАНІМАМ А. СУМНЫ

*Мае коляды (с. 148)*
Паэма апублікавана ў 1920 годзе ў Вільні асобнай кнігай, з паметкай: Вёска Капанікі, 13 студзеня 1905 г. Гэта першы вядомы твор Алеся Гаруна.
*Гарачэ* — дыялектная форма прыслоўя *горача.*

*Гэй жа ж, мая вёска!.. (с. 158)*
Друкуецца паводле газ. «Беларус», 1913, № 39, дзе ўпершыню апублікаваны.

*З навагодніх думак (с. 161)*
Друкуецца паводле газ. «Беларус», 1914, № 1, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Прывітанне (с. 161)*

Друкуецца паводле газ. «Беларус», 1914, № 3, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«Божа мой! Я чую зноў...» (с. 163)*

Друкуецца паводле газ. «Беларус», 1914, № 8, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Браты! дакуль мы будзем спаць? (с. 163)*

Друкуецца паводле газ. «Беларус», 1914, № 14—15, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Скуль у мяне (с. 165)*

Друкуецца паводле газ. «Беларус», 1914, № 26, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Каб быў молад... (с. 166)*

Друкуецца паводле газ. «Беларус», 1914, № 17, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Хмары (с. 167)*

Друкуецца паводле газ. «Беларус», 1914, № 31, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Слонца (с. 168)*

Друкуецца паводле газ. «Беларус», 1914, № 36, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Песня («Віхар шугае ў полі...») (с. 168)*

Друкуецца паводле газ. «Беларус», 1914, № 42, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Гімн роднай мове (с. 170)*

Друкуецца паводле газ. «Беларус», 1914, № 52, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Лісток і надзея (с. 171)*

Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 26, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Песня («За рэчкай, за рэчкай...») (с. 172)*

Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 26, дзе ўпершыню апублікаваны.

*На плач мяне забірае (с. 173)*

Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 26, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Багаты вы... (с. 175)*

Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 33, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Шчаслівы той... (с. 176)*

Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 33, дзе ўпершыню апублікаваны.

## *ПАЭТЫЧНЫЯ ТВОРЫ, АПУБЛІКАВАНЫЯ ПАД ПСЕЎДАНІМАМ САЛЬВЭСЬ*

*Рэдактарскі сон (с. 178)*

Друкуецца паводле газ. «Беларускі шлях», 1918, № 3, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Кар'ера (с. 180)*

Друкуецца паводле газ. «Беларускі шлях», 1918, № 38, дзе ўпершыню апублікаваны. Друкаваўся ў газеце «Белорусское эхо», 1918, № 2.

*Адрас (с. 180)*

Друкуецца паводле газ. «Беларускі шлях», 1918, № 100, дзе ўпершыню апублікаваны.

## *ВЕРШЫ З АЎТОГРАФАЎ 1907—1920 гг.*

Даюцца паводле Збору твораў, падрыхтаванага да друку ў 1929 г. камісіяй у наступным складзе: І. І. Замоцін, М. М. Піятуховіч, А. І. Барычэўскі, Т. М. Мачульскі, пад агульнай рэдакцыяй І. І. Замоціна. Каментарыі і заўвагі да выдання (у тым ліку і да зборніка «Матчын дар») рыхтаваў В. Т. Мачульскі. У гэтых вершах, як правіла, сустракаюцца неадшліфаваныя радкі. У такім выглядзе аўтар не мог аддаваць іх у друк. І тым не менш яны маюць бясспрэчную гісторыка-літаратурную каштоўнасць, бо даюць уяўленне аб некаторых асаблівасцях працы паэта над мастацкім словам, аб напрамках яго творчых пошукаў. Том захоўваецца ў Архівемузеі літаратуры і мастацтва БССР.

## *ЧАРНАВЫЯ НАКІДЫ З АЎТОГРАФАЎ РОЗНЫХ ГАДОЎ*

Даюцца паводле Збору твораў, падрыхтаванага да друку ў 1929 г.

## АПАВЯДАННІ

*Першы снег (с. 218)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1912, № 39, дзе ўпершыню апублікавана.

*Маладое (с. 218)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1912, № 40, дзе ўпершыню апублікавана.

*Пан Шабуневіч (с. 225)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1913, № 6, дзе ўпершыню апублікавана.

*Чалавек без крыві (с. 234)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1915, № 17, дзе ўпершыню апублікавана.

*П'ера і Каламбіна (с. 237)*

Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 3, дзе ўпершыню апублікавана.

*Свята (с. 245)*

Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 16, дзе ўпершыню апублікавана.

*У Панасавым сяле (с. 257)*

Друкуецца паводле газ. «Беларус», 1920, № 1, дзе ўпершыню апублікавана.

## П'ЕСЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

*«Жывыя казкі» (1920) (с. 264)*

П'есы друкуюцца па кн.: Алесь Гарун. Жывыя казкі. Мінск, 1920, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Датрымаў характар (с. 327)*

Друкуецца па кн.: Зборнік твораў для дзіцячага тэатру. Мінск, 1920, у падзагалоўку заўвага: Пераробка з польскага «За кару» М. І.

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

*Одгукі (с. 336)*

Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 1, 7 студзеня, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Увагі да нацыянальнага руху (с. 340)*

Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 9, 7 сакадзеня, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Лісты (с. 344)*

Друкуюцца ўпершыню. Захоўваюцца ў рукапісным аддзеле Навуковай бібліятэкі АН Літоўскай ССР, ф. 21.

ЗМЕСТ

Уладзімір Казбярук. Церневыя і лаўровыя вянкі Алеся Гаруна . . . . . . . . . . . . . . . . . 5

«МАТЧЫН ДАР» (1907—1914)

Людзям . . . . . . . . . . . . . . . . 30

Роднаму краю
«Чаму з маленства, з ураджэнства...» . . . . . . . . 32
Начныя думкі . . . . . . . . . . . . . . 33
«Як надарыцца мінута...» . . . . . . . . . . . 34
«Хай не льюцца дажджы цёмна-хмарныя...» . . . . . . 36
«Мілая, родная старонка-маці!..» . . . . . . . . 36
Ваўкалакі . . . . . . . . . . . . . . 37
Іванку . . . . . . . . . . . . . . . 37
«Ты, мой брат, каго зваць Беларусам...» . . . . . . . 38
Юдам . . . . . . . . . . . . . . . 39
Песня-звон . . . . . . . . . . . . . 41
«Усе з аднэй мы выйшлі нівы...» . . . . . . . . . 41
Песня («На чужой староначчы...») . . . . . . . . 42

На чужыне
У выгнанні . . . . . . . . . . . . . 44
Вяселле . . . . . . . . . . . . . . 45
Журба . . . . . . . . . . . . . . 46
Восень . . . . . . . . . . . . . . 46
Мае думкі . . . . . . . . . . . . . 47
Навакол... . . . . . . . . . . . . . 48
Ветру . . . . . . . . . . . . . . 50
Завіруха . . . . . . . . . . . . . 50
Думы ў чужыне . . . . . . . . . . . . 51
З песняў няволі . . . . . . . . . . . . 54

«За тысячу вёрст ад радзімага краю...» . . . . . . . . 56
«Эх, сягоння, ў гэту ночку...» . . . . . . . . . . . 57
На смерць . . . . . . . . . . . . . . . . 58
«Думкі — дыяменты, краскі жыцця...» . . . . . . . . . 60
Вясна . . . . . . . . . . . . . . . . . 61
Nocturno . . . . . . . . . . . . . . . . 62
«Дзяўчыначка-сэрца, сябе не трывож...» . . . . . . . . 63
Мая люба . . . . . . . . . . . . . . . . 64
«Хто сказаў: «І я з народам...» . . . . . . . . . . 64
Ідуць гады . . . . . . . . . . . . . . . 65
Навука . . . . . . . . . . . . . . . . 66
Адбітак . . . . . . . . . . . . . . . . 66
«Як ліст вярбінкі маладой...» . . . . . . . . . . 67
Нязнаны госць . . . . . . . . . . . . . . 67
Матчын дар . . . . . . . . . . . . . . . 68
Змора . . . . . . . . . . . . . . . . . 70
Літанне Адзіноце . . . . . . . . . . . . . 70
Начлег . . . . . . . . . . . . . . . . 71
«Скажы, братухна, калі паранне?..» . . . . . . . . . 72
Ноч . . . . . . . . . . . . . . . . . 72
«Хрыстос нарадзіўся!..» . . . . . . . . . . . 73
Малітва . . . . . . . . . . . . . . . . 74
Паэту . . . . . . . . . . . . . . . . . 75
Слабасці . . . . . . . . . . . . . . . . 75
Жыццё . . . . . . . . . . . . . . . . . 76
Муляру . . . . . . . . . . . . . . . . 77

Прызывы роднага

Вясна . . . . . . . . . . . . . . . . . 78
Вецер . . . . . . . . . . . . . . . . . 79
У прыпар . . . . . . . . . . . . . . . . 80
Добрыя дзеці . . . . . . . . . . . . . . 81
Салавейка . . . . . . . . . . . . . . . 82
Дзяўчаці . . . . . . . . . . . . . . . . 82
Асенні спеў . . . . . . . . . . . . . . . 83
Песня . . . . . . . . . . . . . . . . . 83
Хаўтуры . . . . . . . . . . . . . . . . 84
Мяцеліца . . . . . . . . . . . . . . . . 86
Два каханні . . . . . . . . . . . . . . . 86
Казка . . . . . . . . . . . . . . . . . 87
Хатка . . . . . . . . . . . . . . . . . 89
Габруська . . . . . . . . . . . . . . . 90
Жабрачка . . . . . . . . . . . . . . . . 91
Сын . . . . . . . . . . . . . . . . . . 93

Журба і смяхоцце . . . . . . . . . . . . 94
Спрэчка . . . . . . . . . . . . . . . 95
Каму што. *Жарт* . . . . . . . . . . . . 97
Варожба. *Засцянковая аповесць* . . . . . . . . 98
Канец Паўлючонка . . . . . . . . . . . . 105
Шчасце Мацея. *Старадаўная казка* . . . . . . . 112

## ВЕРШЫ, ЯКІЯ НЕ УВАЙШЛІ У ЗБОРНІК «МАТЧЫН ДАР»

Януку Купале . . . . . . . . . . . . . 118
Беларусам у чатырохлецце «Нашай нівы» . . . . . . 118
«Нічога на небе...» . . . . . . . . . . . . 119
Праводзіны . . . . . . . . . . . . . . 119
На варце . . . . . . . . . . . . . . 120
У чужыне. *Думы* . . . . . . . . . . . . 121
Чалавечая кроў . . . . . . . . . . . . . 122
У ноч на Новы год . . . . . . . . . . . . 123
На сяло . . . . . . . . . . . . . . . 123
Ён не згіне... *Настроі* . . . . . . . . . . 124
Апякун. *Байка* . . . . . . . . . . . . . 125
На Віціме . . . . . . . . . . . . . . 126
Лірнік . . . . . . . . . . . . . . . 127
Спогадзь. *Байка* . . . . . . . . . . . . 127
Край няволі . . . . . . . . . . . . . . 129
Народ . . . . . . . . . . . . . . . 130
Пажар . . . . . . . . . . . . . . . 131
Трохлінейка-магазынка . . . . . . . . . . 131
Паходная . . . . . . . . . . . . . . 132
«Брацця, к агульнаму шчасцю...» . . . . . . . . 133
Дакоры . . . . . . . . . . . . . . . 134
З астарожных картак . . . . . . . . . . . 135
Хвейнаму другу . . . . . . . . . . . . . 137
У гары і доле. *З нотаў аб Паўночы* . . . . . . . 138
Самсон . . . . . . . . . . . . . . . 140
Шлюб . . . . . . . . . . . . . . . 141
Пралескі . . . . . . . . . . . . . . 142
Трэны. *З гадоў няволі* . . . . . . . . . . 142
Адляцела душа. *З няволі* . . . . . . . . . 143
Жыццё. *Элегія* . . . . . . . . . . . . 144
Бажанне . . . . . . . . . . . . . . . 144
Кліч . . . . . . . . . . . . . . . . 145
Песня капачоў . . . . . . . . . . . . . 145
Відзенне. *З гадоў няволі* . . . . . . . . . 146
*З Тараса Шаўчэнкі.* «Каўказ» . . . . . . . . 147

П а э т ы ч н ы я т в о р ы, а п у б л і к а в а н ы я п а д п с е ў д а н і м а м А. С у м н ы

Мае коляды . . . . . . . . . . . . . . . . . 148
Гэй жа ж, мая вёска!.. . . . . . . . . . . . . 158
З навагодніх думак . . . . . . . . . . . . . 161
Прывітанне . . . . . . . . . . . . . . . . 161
«Божа мой! Я чую зноў...» . . . . . . . . . . . 163
Браты! дакуль мы будзем спаць? . . . . . . . . . 163
Скуль у мяне... . . . . . . . . . . . . . . . 165
Каб быў молад... . . . . . . . . . . . . . . . 166
Хмары . . . . . . . . . . . . . . . . . . 167
Слонца . . . . . . . . . . . . . . . . . . 168
Песня («Віхар шугае ў полі...») . . . . . . . . . 168
Гімн роднай мове . . . . . . . . . . . . . . 170
Лісток і надзея . . . . . . . . . . . . . . . 171
Песня («За рэчкай, за рэчкай...») . . . . . . . . 172
На плач мяне забірае . . . . . . . . . . . . 173
Багаты вы . . . . . . . . . . . . . . . . . 175
Шчаслівы той . . . . . . . . . . . . . . . . 176

П а э т ы ч н ы я т в о р ы, а п у б л і к а в а н ы я п а д п с е ў д а н і м а м С а л ь в э с ь

Рэдактарскі сон. *Паэма не паэма, а нешта «накшталт таго»* . 178
Кар'ера. *Маленькі фельетон* . . . . . . . . . . 180
Адрас. *Маленькі фельетон* . . . . . . . . . . . 180

В е р ш ы з а ў т о г р а ф а ў 1907—1920 гг.

«Брацця! Досыць цярпець нам і гнуцца...» . . . . . . 181
Успамненні . . . . . . . . . . . . . . . . . 182
Жураў і лісіца. *Байка* . . . . . . . . . . . . 184
Сірочая песня . . . . . . . . . . . . . . . . 187
Матцы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 188
«Разваж, гаю зеляненькі...» . . . . . . . . . . . 189
«Не журуся, што не маю...» . . . . . . . . . . . 189
«Добры вечар, мой Язэпка!..» . . . . . . . . . . 190
«Лётала чайка, сумна крычала...» . . . . . . . . . 192
Дні . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 193

В е р ш ы р о з н ы х г а д о ў (без даты)

Песня («Ды ўжо слонейка за лес коціцца...») . . . . . 194
Лябёдачка-дзяўчыначка . . . . . . . . . . . . 194
«Як дзеўча у веку квіцення...» . . . . . . . . . . 196
«Сталася здарэнне дый каля крыніцы...» . . . . . . 197
Рацэя . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 198
Згода . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 199
Галасуюць . . . . . . . . . . . . . . . . . 202

Чарнавыя накіды з аўтографаў розных гадоў
Некалі . . . . . . . . . . . . . . 203
«Дайце мне слоў, як звінючы крышталь...» . . . 203
Не плач . . . . . . . . . . . . . 203
«Над вадою, над ракою...» . . . . . . . . 204
«Кволая кветачка, бледная ружачка...» . . . . . 204
«Як не плакаць,— я ж сіротка...» . . . . . . 205
«Дзіця! Ты бачыла траву...» . . . . . . . . 206
«За вакном, за гратамі, на волі...» . . . . . . 206
«Дзе ясныя зоры, на неба дарога...» . . . . . . 206
«Між дзвюх высокіх град...» . . . . . . . . 207
«Вецер асенні, халодны, сярдзіты...» . . . . . 207
«Дзякуй, паночкі, за ласку...» . . . . . . . 208
«[Праблудзіў] я па сцепу два тыдні...» . . . . . 208
«Загуляў Сцяпанка...» . . . . . . . . . . 209
«Сцяпан Дзяўджук цяпер багаты...» . . . . . . 210
«Ад вёскі нашай недалёка...» . . . . . . . . 211
«Бабуля, казку!..» . . . . . . . . . . . 214

## АПАВЯДАННІ

Першы снег. *Легенда* . . . . . . . . . . . 218
Маладое. *З казак астрогу* . . . . . . . . . 218
Пан Шабуневіч . . . . . . . . . . . . 225
Чалавек без крыві . . . . . . . . . . . 234
П'ера і Каламбіна . . . . . . . . . . . 237
Свята . . . . . . . . . . . . . . . 245
У Панасавым сяле. *Бывальшчына* . . . . . . . 257

## П'ЕСЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

«Жывыя казкі» (1920)
Хлопчык у лесе . . . . . . . . . . . . 265
Шчаслівы чырвонец . . . . . . . . . . . 295
Дзіўны лапаць, або Не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць . 318
Датрымаў характар . . . . . . . . . . . 327

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

Одгукі . . . . . . . . . . . . . . . 336
Увагі да нацыянальнага руху . . . . . . . . 340

Лісты . . . . . . . . . . . . . . . 344

Каментарыі . . . . . . . . . . . . . . 346

**Гарун А.**

Г21 Сэрцам пачуты звон: Паэзія, проза, драматургія, публіцыстыка/Уклад., прадм. і камент. У. Казберука; Маст. У. Басалыга.— Мн.: Маст. літ., 1991.— 359 с., [5] л. іл., партр.: іл.— (Спадчына).

ISBN 5-340-00523-2.

Гарун А. Сердцем услышанный звон: Поэзия, проза, драматургия, публицистика.

Творчасць Алеся Гаруна (Прушынскага Аляксандра Уладзіміравіча, 1887—1920) — адна з самых выдатных і адначасна трагічных старонак у гісторыі беларускай літаратуры.

У гэтай кнізе сабрана ўся знойдзеная на гэты час творчая спадчына Алеся Гаруна — таленавітага і самабытнага паэта, празаіка, драматурга, публіцыста.

Г $\frac{4702120206-008}{М 302(03)-91}$ 117—90 ББК 84Бел7

Литературно-художественное издание

ГАРУН АЛЕСЬ

(Прушинский Александр Владимирович)

СЕРДЦЕМ УСЛЫШАННЫЙ ЗВОН

Поэзия, проза, драматургия, публицистика

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

ГАРУН АЛЕСЬ

(Прушынскі Аляксандр Уладзіміравіч)

СЭРЦАМ ПАЧУТЫ ЗВОН

Паэзія, проза, драматургія, публіцыстыка

Рэдактар В. М. Хлебавец. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Н. У. Доваль.

ІБ № 3315

Здадзена ў набор 25.01.90. Падп. да друку 19.10.90. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 18,90+0,53 укл. Ум. фарб.-адб. 20,69. Ул.-выд. арк. 18,89. Тыраж 6400 экз. Зак. 95. Цана 1 р. 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.